


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

24 студзеня 2003 года

№ 4 (405)
Выходзіць па пятніцах

плюс ТэлетыДзень

**Навіны рэгіёну**

## Карткі наступаюць

МЯДЗЕЛ. Колькасць уладальнікаў пластыкавых картак ад "Беларусбанка" ў раёне перасягнула 2 тысячы чалавек. Працуе 12 пунктаў выдачы наяўных грошай па картках, прытым нават і ў вёсках — Кабыльнік і Камарова. Збіраюцца адкрыць такі пункт і ў Занарачы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Доўгі фестываль

АШМЯНЫ. У нядзелю адкрыецца 2-і раённы фестываль танца "Шырэй кола". Фестываль праходзіць раз у 2 гады. Прадугледжана 4 этапы. Закончыцца фестываль вялікім гала-канцэртам у... маі.

**Ірына РАБУШКА.**

## Вечар з Бураўкіным

МАЛАДЗЕЧНА. 22 студзеня горад наведаў народны паэт Беларусі Генадзь Бураўкін. На літаратурнай вечарыне ў музычнай школе ён чытаў свае вершы. Генадзь Мікалаевіч таксама адказваў на пытанні гараджан.

**Яўгенія МАНЦЭВІЧ.**



Генадзь Бураўкін дае аўтографы.
Фота Яўгеніі МАНЦЭВІЧ.

## Сям'я – галоўнае

АСТРАВЕЦ. 26 студзеня пройдзе традыцыйны фестываль сямейнай творчасці. З горада і раёна з'едуцца 16 сем'яў-удзельнікаў. Падчас фестывалю будзе наладжана выстаўка найлепшых работ.

**Ірына РАБУШКА.**

## Сёння – 12 каналаў

СМАРГОНЬ. 400 новых абанентаў падключыліся да сеткі кабельнага тэлебачання. Цяпер яны глядзяць 12 каналаў замест трох. Работы выконвае ЗАТ "Оксна".

**Ірына РАБУШКА.**

## Падарункі ракаўцам

ВАЛОЖЫН. 22 студзеня Ракаўскую СШ наведалі прадстаўнікі пасольства Польшчы. Настаўніца польскай мовы Вераніка Салавей расказала, што ў школе два разы на тыдзень выкладае у 2-9 класах польскую мову, што стала прычынай прыезду гасцей. Дзецям уручылі навагоднія падарункі.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

# Замуж – у дзень студэнта

**МАЛАДЗЕЧНА. Заўтра навучэнцы адсвяткуюць дзень студэнта. Кожны пасвойму. Айна Вількс у суботу выходзіць замуж. Яна вучыцца ў Маладзечанскім медыцынскім вучылішчы на медсястру. Яе абраннік Сяргей Вашко працуе будаўніком.**

Пазнаёміліся яны ў верасні 2000 года. Сяброўка дапамагла. Бацька Сяргея доўга не мог запомніць імя Айны, а прозвішча яшчэ даўжэй. Увогуле, кажа Айна, калі з кімнебудзь знаёмішся, некалькі разоў трэба паўтарыць. Гэта дзядуля даў такое імя дзяўчыне. У кніжцы вычытаў.

Сяргей любіць Айне дарыць кветкі. Як здае сесію, пасля кожнага экзамена нясе ружы, піёны. А яна яму і ў будні, і ў святы – сэрцайкі-валянцінкі. Цэлых 15 падарыла! Ён ужо 10 гадоў займаецца авіямадэліраваннем. У юнацтве перамагаў на розных спаборніцтвах. Цяпер перадае свой вопыт дзецям. Яна любіць шыць мяккія цацкі і вязаць шкарпэткі. Сяргей кажа, што ў іх не замерзнеш. 2 дні і шкарпэткі гатовыя.

З мінулага лета вырашылі жыць разам. Ва ўласным доме яго бацькоў Айна гатуе і мые. Сяргей пыласосіць і прыбірае ў трох пакоях і прыхожай. Дзяўчыне засталіся кухня, кацельня, калідор. Маўляў, там больш трэба прыкладаць рукі. Айна вельмі любіць жывёл. Дэкаратыўнага пацука завесці ў хаце хочацца.

Летам Айна і Сяргей любяць ездзіць на Вілейскае вадасховішча. Асабліва пасля 12 гадзін ночы. Такая асалода на хвалях гойдацца! Уначы іх больш, яны вышэйшыя.

Яшчэ любяць разам смачна паесці. Айна пячэ пірагі, смажыць грэнкі. Сяргей у ядзе не пераборлівы. Больш за ўсё падабаецца палову батона запіваць шклянкай сырой вады з 4 чайнымі лыжкамі цукру. Сяргей свварыцца, калі Айна купляе вафлі, але сам усе і з'ядае.

Крыўдзіцца адзін на аднаго не больш за 5 хвілін. Першай мірыцца яна. З заўтрашняга дня ў іх пачынаецца новае жыццё. Марацъ аб сыночку і дачушцы.

**Ірына РАБУШКА.**



За чатыры дні да свайго вяселля. Маладзечанцы Айна Вількс і Сяргей Вашко.
Фота Ірыны РАБУШКІ.

## Забыліся на інвалідаў

Паўгода таму ў Маладзечне адкрыўся Палац культуры. Будынак прыгожы і карысны. Вось толькі пра інвалідаў не паклапаціліся.

4-я старонка

## Вілейскі маёнтак Агінскіх Ганута

У вядомага кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага на Вілейшчыне быў маёнтак Ганута.



5-я старонка

## Каляндар садавода-агародніка на 2003 год

Каляндар садовых і агародных работ ад Альбіна Макарэвіча на 2003 год. Спрыяльныя і неспрыяльныя дні. Парады.

6–7-я старонкі

■ ГАЗЕТЫ

# Падпісчыкаў «Рэгіянальнай газеты» чакаюць прызы

**24 студзеня ў 14.00 у маладзечанскім кінатэатры "Радзіма" пройдзе розыгрыш прызоў сярод падпісчыкаў "Рэгіянальнай газеты". У розыгрышы прызоў удзельнічаюць падпісчыкі, якія даслалі копіі або арыгіналы падпісных квіткоў на першы квартал або на паўгоддзе на адрас "Рэгіянальнай газеты" да 6 студзеня гэтага года.**

Падпісная кампанія ў канцы мінулага года дапамагла газеце павысіць свой тыраж да 10300 экземпляраў. Кожны чацверты экземпляр ідзе па падпісцы. Астатнія распаўсюджваюцца ў розніцу. Асноўная маса чытачоў знаходзіцца ў Маладзечне (распаўсюджваецца больш за 6000 экземпляраў) і Вілейцы (2400 экземпляраў). Вілейка абганяе Маладзечна па колькасці падпісчыкаў, Маладзечна Вілейку – па продажы газет ў розніцу. Ёсць чытачы ў газеты – і сярод удзельнікаў розыгрышу – і за межамі рэгіёну.

*Сярод прызоў:*
*магчымасць правесці вечар на дваіх у кафэ «Блюз», чайны сервіз і шмат іншых...*

Вынікі розыгрышу прызоў будуць апублікаваныя ў нашай газеце 31 студзеня. Для ўдачніка, які выйграе прыз, дастаткова будзе прад'явіць пашпарт або іншае пасведчанне асобы і арыгінал падпіснога квітка, калі ў рэдакцыю была дасланая копія. Калі шчаслівы пераможца прыйдзе на розыгрыш прызоў 24 студзеня, то яму прыз можа быць уручаны непасрэдна ў час правядзення акцыі.

Сябруйце з нашай газетай і вы пастаянна будзеце ў курсе падзей нашага рэгіёну.

**Рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты".**

■ ДА 100-ГОДДЗЯ НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ

# Конкурс імя Арсеннева́й

**РГА "Беларускі ПЭН-цэнтр" пры падтрымцы Беларускай асацыяцыі журналістаў, газетаў "Рэгіянальная газета", "Белорусская деловая газета", "Биржа информации", "Барысаўскія навіны", "Брестский курьер", "Витебский курьер", "Вечерний Брест", "Вольны час", "Газета Слонімская", "Де-факто", "Інтэкс-press", "Молодежный проспект", "Навінкі", "Народная воля", "Наша Ніва", "Наша слова", "Новая газета Сморгони", "Новы час", "Переходный возраст", "Рунь", "Телевид-инфо", часопісаў "Arche", "Студэнцкая думка", "Дзеяслоў", "Мясцовы час", інтэрнэт-выданняў "Літара.net", "Кнігі.com", "Дзед Талаш", "BARCnews.org", "Пагоня.promedia.by" аб'яўляе творчы конкурс для маладых літаратараў.**

Да ўдзелу запрашаюцца творцы ад 14 да 24 гадоў (на момант абвяшчэння конкурсу). Лаўрэаты конкурсу будуць запрошаныя на літаратурны семінар і майстар-класы ў Мінск, дзе перад імі выступяць знаныя пісьменнікі, выкладчыкі ВНУ, вучоныя, барды, рок-спевакі, адбудзецца зацікаўленая гутарка аб іх творах і літаратурнай дзейнасці. Прызам для пераможцы конкурсу стане выданне ягонае кнігі.

На конкурс прымаюцца літаратурныя творы (вершы, апавяданні, эсэ, п'есы, сцэнары фільмаў, аўтарскія газеты, літаратурныя інтэрнэт-праекты і г.д.) Для ўдзельнікаў старэйшых за 19 гадоў пажадана (але не абавязкова) прадставіць рукапіс кнігі.

Да разгляду будуць прымацца творы, дасланыя (паводле даты на паштовым штэмпелі або даты адпраўкі электроннага ліста) не пазней за 15 сакавіка 2003 г. Падвядзенне вынікаў першага туру і адбор удзельнікаў семінару адбудуцца 25 сакавіка. Літаратурны семінар і майстар-класы пройдуць у Мінску на пачатку мая. Іх удзельнікі будуць забяспечаныя жытлом і харчаваннем.

Журы конкурсу: Міхась Тычына (старшыня), Андрэй Дынько, Ганна Кісліцына, Міхась Скобла, Андрэй Хадановіч. Творы дасылайце на адрас: e-mail: pen@pen.unibel.by; паштовы адрас: 220050 а/с 218 Мінск РГА "Беларускі ПЭН-цэнтр". Даведкі праз электронную пошту ці тэлефон (017) 288-14-61

# Наталля Арсеннева ў нашым краі

**Наталля Арсеннева, вядомая беларуская паэтка, нарадзілася ў 1903 годзе ў Баку, памерла 25 ліпеня 1997 года ў Нью-Ёрку. Вялікая частка жыцця яе прайшла на радзіме мужа Франца Кушаля ў Дорах на Валожыншчыне. У 1940–м працавала ў вілейскай абласной газеце "Сялянская газета" разам з Максімам Танкам, Ежы Путрамантам. У сваіх мемуарах, выдадзеных Беларускім інстытутам навукі і мастацтва (укладальнік Лявон Юрэвіч у Нью-Ёрку ў 1999 годзе), Н.Арсеннева згадвае пра той перыяд:**

"Падала (знаходзячыся ў Вільні, перададзеная літоўцам, – рэд.) заяўку ў беларускую рэпатрыяцыйную камісію аб дазволе ўезду на тэрыторыю пад Саветамі. Атрымала дазвол. 31-га сьнежня, напярэдадні Новага Году, я з хлапцамі пакінула яшчэ раз Вільню і апынулася ў Савецкім Саюзе.

Спынілася я на разе ў Вялейцы, дзе жыў брат мае братавое. Тут хлопцы маглі хадзіць вучыцца ў гімназію, ці дзесяцігодку, як яна ўжо звалася. Доры былі таксама блізка, і мне заўсёды маглі адтуль падкінуць тое–сёе з харчоў. Апрача таго, у Вялейцы быў Танк, які абяцаў уладзіць мяне тут на працу. Так і сталася. Праз колькі дзён я ўжо працавала разам з Танкам і ягонаю жонкай Любай у рэдакцыі Вялейскае "Сялянскае Газэты", хлапцы паступілі ў 8–ую клясу вялейскай дзесяцігодкі, а з Дораў прыбыў на санках першы транспарт добрых рэчаў, аб якіх мы забыліся за гэтыя пару галодных месяцаў у Вільні. Жыццё пачало наладжвацца. Мы вельмі пасябравалі з Танкам і ягонай Любай. Праца была прыемная (я была стылістам), хоць вельмі цяжкая. Працаваць даводзілася шмат. Калі дзе прамаўляў тав. Сталін або іншы які вялікі чалавек, – пакуль радыстыя прынялі размову, машыністыя перабілі, я прастылізавала, мінал блізу ўся ноч. Як часта я варочалася дахаты стомленая да сьмерці пустымі вулачкамі Вялейкі, а вакол дрэвы й платы трашчэлі й стралялі ад страшэннага марозу! Ды што зробіш. Усё трэба было цярпець, бо я хацела, каб хлапцы мае маглі вучыцца, хай і ў савецкай школе, і не былі галодныя, як у Вільні."

Урэшце Наталля Арсеннева была арыштаваная савецкімі ўладамі як жонка польскага афіцэра і сасланая са сваімі двума сынамі ў Казахстан.

**Мікола ГАЙДУК.**



Наталля Арсеннева. Фота з архіва «РГ».

■ ВЫСТАЎКІ



Адна з гравюр Андо Хірасігэ на выстаўцы ў Маладзечне. Фота Яўгенії МАНЦЭВІЧ.

# Гравюры з Японіі

**МАЛАДЗЕЧНА. 20 студзеня ў цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя М.Багдановіча адкрылася выстаўка старажытнай японскай гравюры. На ёй прадстаўлена серыя пейзажных твораў знакамітага майстра Андо Хірасігэ "Пяцьдзесят тры станцыі дарогі Такайдо".**

Андо Хірасігэ нарадзіўся ў 1797 годзе ў сям'і самурая з горада Эдо (Токіо). Першы твор "Гара Фудзі ў снезе" напісаны мастаком у 10-гадовым узросце. Ён захаваўся да нашых дзён і знаходзіцца цяпер у музеі ў Токіо. У 16 гадоў Андо атрымаў пасведчанне майстра гравюры школы Утагава. У аснове ранніх работ Хірасігэ – рэальныя падзеі, сцэнкі з жыцця вуліцы.

Другі этап творчасці мастака вядомы серыямі пейзажных гравюр "Восем відаў Омі", "Дзесяць відаў усходняй сталіцы". У жніўні 1832 года мастак праходзіць усю ўсходне-прыморскую дарогу Такайдо. Вынікам гэтага падарожжа і з'явілася буйная серыя пейзажных гравюр "Пяцьдзесят тры станцыі дарогі Такайдо", якая паклала пачатак росквіту яго творчасці.

Выстаўку прадставіў бібліятэцы аташэ па пытаннях культуры пасольства Японіі у Рэспубліцы Беларусь пан Хоры сан. Яна будзе доўжыцца да 31 студзеня.

**Таццяна ЧАБРОЎСКАЯ, загадчыца аддзела абслугоўвання ЦБ.**



## Цікавая работа

**«Рэгіянальная газета» паўторна праводзіць конкурс на замяшчэнне вакантнай пасады спецыяліста ў аддзел распаўсюджвання.**

Калі вы маеце вышэйшую адукацыю, не баіцеся камп'ютэра, гатовыя ўліцца ў каманду аднадумцаў – дасылайце рэзюмэ на адрас рэдакцыі.

"Рэгіянальная газета" – выданне, якому сёлета спаўняецца 8 год, якое добра вядомае не толькі ў нашым рэгіёне, якое пастаянна знаходзіцца ў развіцці і творчым пошуку, якое мае зразумелыя перспектывы.

222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.

Электронная пошта: regionnews@promedia.by

Факс 01773–53841, 69667.

 



# Вілейскі маёнтак Агінскіх Ганута

**Акрамя канфіскаванага маёнтка Ілья за ўдзел у паўстанні Т.Касцюшкі, у слыннага кампазітара і грамадскага дзеяча Міхала Клеафаса Агінскага быў на Вілейшчыне яшчэ адзін маёнтак – Ганута.**

З 1723 года ўладальнікам Ганута стаў Казімір Коцел, староста маркаўскі. Маёнтак пазней перайшоў да яго дачкі Разаліі, жонкі Казіміра Ігнація Агінскага, старосты пшэвальскага і бабінавіцкага. Яны памерлі ў 1769 годзе без нашчадкаў, запісаўшы Гануту і Маладзечна яшчэ ў 1738 годзе брату Казіміра Тадэвушу Францішку.

Нарадзіўся ён 26 жніўня 1712 года ў сям'і віцебскага ваяводы Марцыяна Агінскага. Ужо ў дваццацігадовым узросце выбіраўся віцебскім дэпутатам на двухтыднёвым Варшаўскім сойме, дзе вызначыўся тым, што быў адным з тых, хто сарваў яго работу. Службовая кар'ера Тадэвуша рухалася імкліва.

З 1744 года Тадэвуш Агінскі становіцца сенатарам і кашталянам Троцкім. Шмат сродкаў і асабістага часу траціць на дабрачынныя справы, будуючы цэрквы ў сваіх уладаннях. Пасля смерці бацькі атрымаў яшчэ некалькі спадчынных маёнткаў. Залессем яго адарыла апошняя мачыха Лярская (бацька жаніўся каля пяці разоў).

У 1757 годзе кашталян прадаў свайму старэйшаму сыну Андрэю староства Ашмянскае, а малодшаму Францішку – Пшавальскае. Сам жа разам з жонкай распачынае ў Маладзечне будаўніцтва парафіяльнага касцёла і кляштара трынітарыяў. Сюды ж з Тадуліна пераносіць і сваю рэзідэнцыю.

Пасля заўчаснай смерці жонкі ў другі шлюб Тадэвуш Францішак уступае з Ядвігай Залускай, удавой Крыштафа Тышкевіча.

З новым каралём Рэчы Паспалітай Станіславам Аўгустам Панятоўскім Агінскага звязвала даўняе сяброўства і цёплыя трывалыя сувязі. Тым часам, у Польшчы наступілі незадавальненні праўленнем прадстаўніка Расіі Рэпіна. На радзе сената ў верасні 1769 года было вырашана выслаць у Пецярбург пасла са скаргай на гвалт, што той тварыў, і прапановамі аб вывадзе расійскіх войск. Паслом тым меркавалася абраць літоўскага мечніка, якім быў сын Тадэвуша Андрэй. Для маладога чалавека – гэта вельмі адказная і пачэсная місія. Але візіту мечніка ў сталіцу Расіі не стала збыцца. Імператрыца з гневам упрыняла вестку аб прычынах місіі і



**У 1791 годзе Міхал Клеафас Агінскі прыязджае на Беларусь, дзе ў першую чаргу наводзіць парадак у сваіх спадчынных маёнтках. У тым ліку і ў Гануце.**

аб'явіла, што не дапусціць Агінскага нават на парог сваёй дзяржавы.

У 1770 годзе пасля смерці троцкага ваяводы на яго месца кароль назначыў Тадэвуша Агінскага. Ён ужо некаторы час стала жыў у Гануце, якая стала яго апошняй рэзідэнцыяй. Адсюль да канца свайго жыцця вёў перапіску са Станіславам Аўгустам.

Агінскі вельмі непакоіўся выкананнем трактата аб падзеле Рэчы Паспалітай. Ён з болем у душы аб'язджаў землі Ашмянскага павета, назіраў за ўзніклымі там цяжкасцямі, перажываў сваю бяссільнасць і чакаў новых несуцяшальных перамен.

Памёр ваявода 25 лістапада 1783 года ў Гануце. Цела яго перавезлі ў Вільню і пахавалі ў склепе капліцы Божага цела, якую ён пабудаваў каля касцёла Святога Яна.

Яшчэ ў 1755 годзе Тадэвуш Агінскі запрашае ў Гануту знакамітага італьянскага архітэктара Абрахома Гену, які са сваімі памочнікамі за 10 гадоў пабудаваў тут вельмі ўдалую сядзіба-паркавую рэзідэнцыю ў стылі позняга барока з выкарыстаннем форм ракако. Вясной і летам маёнтак аздаблялі экзатычныя кветкі і дрэвы. Дзве каплічкі, якія захаваліся і зараз, упрыгожвалі ўваходы на сядзібу і могілкі. У кожнай з іх былі ўстаноўлены драўляныя фігуркі Божай Маці, якія скралі каля двух дзесяткаў гадоў таму.

## Патрыёт і музыкант

Пасля смерці Тадэвуша Агінскага Ганута і Маладзечна перайшлі да яго малодшага сына Францішка, літоўскага кухмістра, а з 1814 года да пляменніка апошняга – Міхала Клеафаса.

Нарадзіўся Міхал Клеафас Агінскі 25 верасня 1765 года непадалёку ад Варшавы ў маёнтку ў сваіх бацькоў Гузаве. Гувернёрам бацькі запрасілі француза Жана Рале, які да паўналецця Міхала даў яму з дапамогай іншых настаўнікаў усебаковую адукацыю. Музыцы яго і сястру Юзэфу вучыў будучы кампазітар Восіп Казлоўскі.

Міхал Агінскі рана ўключыўся ў грамадскае жыццё. Ужо ў 1786 годзе ён быў абраны ад трокскай шляхты дэпутатам сойма, дзе паказаў сябе вельмі перспектыўным палітыкам, стаўшы прыхільнікам караля Станіслава Панятоўскага.

17 мая 1789 года жэніцца, уступіўшы ў шлюб з Ізабэлай Лясоцкай, дачкой цеханавецкага ваяводы Антонія Лясоцкага. Праз год маладая пара выязджае ў Гаагу, куды Агінскага прызначаюць надзвычайным паслом і паўнамоцным міністрам Рэчы Паспалітай у Галандыі.

У 1791 годзе Міхал Клеафас на час прыязджае на Беларусь, дзе ў першую чаргу наводзіць парадак у сваіх спадчынных маёнтках. Праз год у сувязі з перамогай Таргавіцкай канфедэрацыі многія яго ўладанні былі канфіскаваныя, і ён мусіў пайсці на здзелку са сваім сумленнем – прысягнуць канфедэрацыі. Прыехаўшы ў Пецярбург, сустракаецца там з вышэйшымі расійскімі саноўнікамі, у тым ліку і з імператрыцай Кацярынай II. 7 мая 1793 года быў афіцыйна прызначаны на пасаду вялікага літоўскага падскарбія. Летам таго ж года ў Гродне праходзіў сойм Рэчы Паспалітай, які павінен быў зацвердзіць другі яго падзел. Паседжанні сойма праходзілі пад націскам магутных суседзяў – Расіі і Прусіі. Агінскі вельмі балюча перажываў гэту падзею, усяляк стараўся пазбегнуць удзелу ў яе гістарычным вырашэнні. Але ўрэшце ён паставіў свой подпіс пад выніковым дакументам.

Калі паўстанне 1794 года перакінулася на Літву і Беларусь, Міхал Агінскі адмовіўся ад царскай пасады падскарбія і стаў актыўным удзельнікам нацыянальна-вызваленчай рэвалюцыі. На вайсковыя мэты ён ахвяраваў асабістыя грошы і многія рэчы, сфарміраваўшы атрад лепшых стралкоў колькасцю ў 480 чалавек. Пазней арганізаваў і ўзначаліў партызанскія дыверсійныя рэйды на Міншчыну і Дынабург. Ён напісаў "Марш паўстанцаў 1794 г.", які ўзнімаў баявы дух жаўнераў у паходах.

Пасля разгрому паўстання на Беларусі і Літве, Агінскі з невялікім атрадам прарываецца ў Варшаву. Пасля апошняга бою за сталіцу Міхалу Клеафасу ўдалося уцалець, і ён эмігруе спачатку ў Вену, дзе яго чакала жонка з дзецьмі, а затым у Венецыю.

Царскія ўлады былі зацікаўленыя ў супрацоўніцтве з Агінскім. Але нягледзячы на вялікую самоту ў сваёй душы, ён не купіўся на абяцанкі нядаўніх ворагаў. Цэлых сем гадоў Міхал Клеафас туляецца па Еўропе. Толькі ў 1801 годзе пераязджае ў Расію. Жонка з дзецьмі засталася ў Польшчы. Паміж ёй і мужам адбыўся разлад, і яны скасавалі свой шлюб.

М.К.Агінскі быў прыняты імператарам Аляксандрам I. Яму былі вернутыя былыя маёнткі.

Неўзабаве Міхал Клеафас ажаніўся ў другі раз з італьянкай Марыяй Нэры, і месцам пастаяннага свайго жыцця яны выбралі Залессе. Тым часам Аляксандр I даручае Агінскаму ў 1807 і 1809 гадах весці адказныя перамовы з Напалеонам, а затым прызначае яго сенатарам і сваім таемным дарадцам. М.Агінскі ўнікае ва ўзнікшае палітычнае становішча і выступае з прапановай адраджэння ВКЛ. Па прапанове расійскага імператара распрацаваў праект аб'яднання 8 заходніх губерняў у Вялікае герцагства Літоўскае. Гэты план так і захаваўся ў гісторыі пад назвай "План Агінскага 1811 года".

У Айчынную вайну 1812 года ён, як большасць беларускіх дваран і шляхты, не падтрымаў Напалеона. Пазней, упэўніўшыся ў марнасці сваіх планаў, адышоў ад палітыкі і стаў настала жыць у Залессі. Тут нарадзілася пяцёра яго дзяцей. Сябры і прыхільнікі яго таленту не забываліся пра мужнага і паважанага далёка за межамі сваёй радзімы чалавека. Паступова сядзіба Агінскіх, асабліва пасля рэканструкцыі, стала асяродкам гасціннасці яе гаспадароў, месцам правядзення знакамітых літаратурна-музычных вечароў. Не выпадкова Залессе празвалі Паўночнымі Афінамі.

Стары настаўнік музыкі Восіп Казлоўскі, які стаў ужо кампазітарам, дапамагаў свайму былому вучню слушнымі парадамі, клапаціўся аб папулярызацыі яго твораў, выданні іх асобнымі зборнікамі. З цягам часу папулярнасць Агінскага–кампазітара расце. Ён піша паланэзы, мазуркі, вальсы і іншыя музычныя творы. Выручаныя ад продажу выпушчаных у Вільні яго зборнікаў грошы пускае на дабрачынныя мэты. Паступова вяртаецца да грамадскага жыцця краю. Быў добра знаёмы з некаторымі выкладчыкамі і студэнтамі універсітэта, ведаў пра іх тайны філарэцкі рух.

Убачыўшы новае наступленне царскай рэакцыі, арышты некаторых кіраўнікоў польскага "Патрыятычнага таварыства", сярод якіх быў і даўні яго сябра пісьменнік Ян Ходзька, М.Агінскі ўлетку 1822 года пад прыкрыццём паездкі на лячэнне назаўсёды пакінуў Радзіму. Жыў у Парыжы, затым каля дзесяці гадоў у Фларэнцыі. Там і памёр 15 кастрычніка 1833 года.



**У мураваным палацы ў Ганууце была зала і прыгожы хол, аздоблены стылёва сфарміраванымі сходнямі і балконам, на якім у часы правядзення асамблеяў і баляў граў аркестр. За домам знаходзіўся рэгулярны трыццацігектарны парк. Пабудовы акружалі штучны вадаём, лукавіна Ганутки і канал.**

Рэпрадукцыя з карціны Напалеона Орды.

## Эпілог

Ганута ж засталася летняй рэзідэнцыяй кампазітара, у якой нейкі час жыў і быў яе ўпраўляючым сакратар канцылярыі троцкага ваяводы Андрэй Ромбулд. Тут пастаянна дзейнічала карцінная галерэя, па святах з навакольных мясцін з'язджаліся знатныя госці, ладзіліся балі і канцэрты. Вольны час Агінскі любіў бавіць у Ганууце, якая знаходзілася за 10 кіламетраў ад Залесся ўверх па Віліі.

Магчыма, што менавіта ў Ганууце незадоўга да свайго ад'езда з Беларусі Міхал Клеафас і напісаў шчырую, шчымлівую мелодыю знакамітага паланэза "Развітанне з Радзімай". А натхняць яго на гэта магло непаўторнае сваёй прыгожосцю наваколле са светлымі бярозавымі гаямі і сасоннікамі, перасечанымі ў розных накірунках ціхай плынню Віліі, Нарачанкі і зусім маленькай няўрымслівай Ганутакай, з якім прыходзілася развітанне назаўсёды. Дакументальнага пацвярджэння, што гэты твор з'явіўся менавіта ў Залессі, не знойдзена.

Дзякуючы гэтай вяртлявай рачулцы Ганутцы і атрымаў сваю назву паркава-архітэктурны ансамбль. Ганута, як і іншыя мясцовыя тапонімы, балцкага паходжання. Яно азначае "сцерагчы", "пасвіць". Тут, магчыма, праходзіла раней мяжа паміж балцкімі плямёнамі і Полацкім княствам.

Некаторы час Ганууцкі маёнтак пуставаў. Пра гэта ў свой час пісаў мясцовы пісьменнік Ігнат Ходзька, наведаўшы тыя мясціны. Але пасля вяртання з Фларэнцыі жонкі М.Агінскага Марыі Нэры ў Залессе Ганута была аддадзеная пад падзел крэдыторам і адышла да сястры кампазітара Юзэфы, якая была замужам у другі раз за Лапацінскім. Яе сын Ян парадніўся з Ржэвуцкімі, пры якіх палац быў рэканструяваны і зноў набыў сваю былую славу. Летам 1881 года побач з ім была асвечаная мураваная Успенская царква, якая дзейнічае і зараз.

У 1891 годзе ў Ганууце адчынена царкоўна-прыходская жаночая школа для 70 дзяўчынак. Тут дзейнічала таксама школа пісьменнасці і мясцовае двухкласнае народнае вучылішча. У 1912-1913 гадах у ім настаўнічаў Рыгор Шырма, будучы арганізатар Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы і народны артыст СССР. У "Археалагічнай карце Віленскай губерні", выдадзенай Ф.Пакроўскім у 1893 годзе ў Вільні, ёсць цікавы запіс: "Тут быў замак, пад якім знаходзілася сем скляпоў". Адсюль быў, як гаварылі, падземны ход у палац. У двары замка – двухпавярховы будынак з падзямеллем, які яшчэ і да гэтага часу завецца "Лятусь-турма". Відаць, не ўсе ранейшыя ўладальнікі Ганууты былі аматарамі музыкі, мастацтва і ўсяго прыгожага.

У час Свянцянскага прарыву ў першую сусветную вайну Ганута на кароткі тэрмін апынулася ў руках немцаў, а затым надоўга заставалася ў прыфрантавой паласе рускай арміі. Палац часткова разбураны, сад і парк знішчаны.

У 20-30-х гадах мінулага стагоддзя сядзіба зноў стала аднаўляцца, але ў гады Вялікай Айчыннай вайны была канчаткова знішчаная.

**Анатоль РОГАЧ, Вілейка.**

## Слоўнічак тэрмінаў

**Староста** – кіраўнік адміністрацыйнай акругі (павета), намеснік вялікага князя (караля).

**Падскарбій** – захавальнік скарбу ВКЛ, выконваў фінансавыя, гаспадарчыя, судовыя і дыпламатычныя даручэнні вялікага князя і Рады ВКЛ.

**Мечнік** – у час вялікіх урачыстасцей нёс перад манархам аголены меч як сімвал вайсковай улады.

**Кашталян** – загадчык замка, меў пэўныя судовыя функцыі.

**Кухмістр** – загадчык прыдворнай кухні і кухараў.

**Ваявода** – кіраўнік мясцовай адміністрацыі ў ваяводстве.

 

# Месяцавы каляндар

## садова-агародных работ на 2003 год

**Месяцавы каляндар прызначаны для садаводаў і агароднікаў Рэспублікі Беларусь. У ім указаныя даты праходжання Месяцам знакаў задыяка, фаз Месяца, сатанінскіх дзён у 2003 годзе. З улікам фаз Месяца, часу праходжання яго па знаках задыяка, а таксама дат сатанінскіх дзён, вызначаныя найбольш спрыяльныя для сяўбы, пасадкі, уборкі, барацьбы са шкоднікамі і хваробамі раслін дні (числы) у кожным месяцы 2003 года**

**Віды работ па культурах — Дні месяца**

### Студзень

**Дні, неспрыяльныя** для сяўбы і пасадкі любой культуры — 3-6, 18-20

**Спрыяльныя дні**

- Сяўба, пасадка
  - Капусты на расаду для цяпліц — 7, 8, 11-13, 16, 17
  - Суніц (рэмантантных) — 14-17
  - Агуркоў, салаты, кропу, пятрушкі, сельдэрэю на зеляніну (на падаконніку і ў цяпліцы) — 7, 8, 11-13, 16, 17
  - Радыскі, морквы, пятрушкі (каранявой) — 23, 24, 26, 30
  - Цыбулі на зеляніну — 26-28
  - Памідораў на падаконніку і ў цяпліцы — 7, 8, 16, 17
- Праполка і апырскванне ўсіх раслін супраць шкоднікаў і хвароб — 3-6, 18-20
- Уборка зеляніны — 12, 13, 16, 17, 23, 24
- Падкормка і паліў усіх культур — 7, 8, 16, 17, 25, 26

### Люты

**Дні, неспрыяльныя** для сяўбы і пасадкі любой культуры — 1, 2, 15-17, 27, 28

**Спрыяльныя дні**

- Сяўба, пасадка
  - Баклажанаў (на падаконніку і ў цяпл.) — 3, 4, 13, 14
  - Суніц (рэмантантных) — 3, 4, 12, 13
  - Агуркоў, салаты, кропу, пятрушкі, сельдэрэю на зеляніну (на падаконніках і ў цяпліцы) — 3, 4, 8, 13, 14
  - Радыскі, морквы, пятрушкі (каранёвай) — 19-22, 25, 26
  - Перцу (на падаконніку і ў цяпліцы) — 3, 4, 8, 9, 13, 14
  - Памідораў (на падаконніку і ў цяпл.) — 3, 4, 8, 13, 14
- Уборка
  - Зеляніны — 5, 6, 8, 9, 13, 15, 16
  - Радыскі, морквы, пятрушкі (каранёвай) — 19, 20, 26-28
- Падкорм. і паліванне ўсіх культур — 2, 13, 14, 21, 22
- Праполка і апырскванне ўсіх культур супраць шкоднікаў і хвароб — 1, 2, 15-17, 27, 28
- Зімовае прышчэпліванне яблынь і груш — 3, 4, 13, 14

### Сакавік

**Дні, неспрыяльныя** для сяўбы і пасадкі культур — 1, 3, 14-16, 27-29

**Спрыяльныя дні**

- Сяўба, пасадка
  - Баклажанаў — 4, 7, 12, 13
  - Суніц (рэмантантных) — 7, 8, 12, 13
  - Агуркоў на расаду, салаты, шпінату, кропу, пятрушкі, сельдэрэю на зеляніну (на падаконніку або ў цяпліцы) — 4, 7, 8, 12, 13
  - Радыскі, морквы, пятрушкі (каранёвай) — 2, 19-21, 24, 30, 31
  - Перцу — 7, 8, 12, 13
  - Памідораў на расаду — 7, 8, 12, 13
  - Капусты на расаду — 4, 7, 8, 12, 13
- Уборка
  - Зеляніны — 12, 14, 15
  - Радыскі, морквы, пятрушкі (каран.) — 19-21, 25-29
- Праполка і апырскванне ўсіх культур супраць шкоднікаў і хвароб — 1, 3, 14-16, 27-29
- Абрэзка пладовых культур, нарыхтоўка чаранкоў для прышчэплівання — 2, 3, 19, 20
- Зімовае прышчэпліванне яблынь і груш — 12, 13
- Яравізацыя бульбы — 2, 19, 20, 25, 26
- Паліванне і падкорм. культур — 2, 3, 12-14, 29, 30

### Красавік

**Дні, неспрыяльныя** для сяўбы і пасадкі любой культуры — 1, 2, 11, 12, 16, 17, 23-25

**Спрыяльныя дні**

- Сяўба, пасадка
  - Баклажанаў, перцу — 8-10, 15
  - Агуркоў на расаду, салаты, шпінату, кропу, пятрушкі, сельдэрэю на зеляніну — 4, 5, 8-10, 15
  - Бобу, гароху, фасолі — 3-5, 8-10, 15
  - Радыскі, морквы, бручкі, рэпы, пятрушкі (каранёвай), пастарнаку, буракоў — 18, 21, 22, 26, 27, 30
  - Памідораў на расаду — 4, 5, 8
  - Капусты на расаду і пад плёнку — 4, 5, 8, 15
  - Бульбы — 18, 19, 21, 22, 26, 27
  - Сланечніка — 15, 16 (да 22 гадз.)
  - Цыбулі, часнаку — 18-20
  - Малін, парэчак, агрэсту — 3-5, 8-10, 15
  - Суніц — 6-8, 26, 27
  - Яблынь, груш, сліў і інш. пладовых дрэў — 18-20
  - Руж, акацый і інш. кустоў, што цвітуць — 8-10, 13, 14
  - Хрызантэм — 6, 7, 30, 31
  - Нарцысаў, вяргінь, гладыёлусаў, півоняў — 4, 5, 8-10, 13, 14
  - Гіяцынтаў — 8-10, 13, 14
- Уборка
  - Агуркоў і зеляніны — 10, 11, 15, 16
  - Радыскі, морквы, пятрушкі (каран.) — 17, 18, 21, 23-25
- Праполка і апырскванне ўсіх культур супраць шкоднікаў і хвароб — 1, 2, 11, 12, 16, 17, 23-25
- Абрэзка ягадных культур — 17, 18, 23-26
- Паліванне і падкормліванне культур — 8, 9, 15, 17, 18
- Прышчэпліванне пладовых культур — 8, 9, 15
- Яравізацыя бульбы — 18, 19, 21, 22

### Май

**Дні, неспрыяльныя** для сяўбы і пасадкі любой культуры — 1, 8-10, 16, 20-22, 31

**Спрыяльныя дні**

- Сяўба, пасадка
  - Баклажанаў, перцу — 6, 7, 12-15
  - Агуркоў на расаду і пад плёнку — 6, 7, 14, 15
  - Бобу, гароху, фасолі — 2, 6, 7, 12-15
  - Радыскі, морквы, бручкі, рэпы, рэдзькі, пятрушкі (каранёвай), пастарнаку, буракоў — 18, 19, 23, 24, 28, 29
  - Памідораў пад плёнку — 6, 7, 14, 15
  - Салаты, шпінату, кропу, пятрушкі і сельдэрэю на зеляніну — 2, 6, 7, 12-15
  - Капусты — 2, 6, 7, 12-15
  - Бульбы — 17-19, 28, 29
  - Сланечніка — 12-14
  - Цыбулі, часнаку — 17-19, 28, 29
  - Малін, парэчак, агрэсту — 6, 7, 14, 15
  - Суніц — 6, 7, 14, 15
  - Яблынь, груш, сліў, вішань, чарэшань, і інш. плад. дрэў (да распускання пупышак) — 17-19, 28, 29
  - Руж, акацый і іншых дрэў і кустоў, што цвітуць — 6, 7, 11-13
  - Хрызантэм — 3, 4, 11, 12
  - Нарцысаў, вяргінь, гладыёлусаў, півоняў — 3, 4, 11-15
  - Гіяцынтаў — 14, 15, 23, 24
- Уборка
  - Агуркоў і зеляніны — 6-8, 13, 14, 17-20
  - Караняплодаў (радыскі, морквы, пятрушкі) — 17-22, 25-27
- Праполка і апырскванне ўсіх культур супраць шкоднікаў і хвароб — 1, 8-10, 16, 20-22, 31
- Паліванне і падкормліванне ўсіх культур — 6, 7, 13-15, 23, 24
- Прышчэпліванне пладовых культур — 6, 7, 14, 15

### Чэрвень

**Дні, неспрыяльныя** для сяўбы і пасадкі любой культуры — 4-6, 14, 15, 17, 18, 29, 30

**Спрыяльныя дні**

- Сяўба, пасадка
  - Баклажанаў, кабачкоў, гарбузоў — 2, 3, 9-12
  - Агуркоў — 2, 3, 11, 12
  - Бручкі, рэдзькі, рэпы, буракоў — 16, 24-26
  - Памідораў — 2, 3, 11, 12
  - Салаты, шпінату, сельдэрэю, пятрушкі на зеляніну — 2, 3, 11-13
  - Капусты — 2, 3, 9-12
  - Бульбы — 16, 24-26
  - Цыбулі на зеляніну і перцу — 11-13
- Уборка
  - Агуркоў і зеляніны — 11, 12, 30
  - Ранняй бульбы і ранніх караняплодаў — 15-18, 20, 21, 27, 28
  - Суніц, парэчак, чарэшні, ранніх яблыкаў — 1-3, 11-13, 17, 18, 20-22
- Праполка і апырскванне ўсіх культур супраць шкоднікаў і хвароб — 4-6, 14, 15, 17, 18, 29, 30
- Паліванне і падкормліванне ўсіх культур — 2, 3, 11, 12, 19, 20

### Ліпень

**Дні, неспрыяльныя** для сяўбы і пасадкі любой культуры — 1-3, 14-16, 28, 29

**Спрыяльныя дні**

- Сяўба, пасадка
  - Баклажанаў, кабачкоў і гарбузоў — 6, 8, 9
  - Агуркоў — 6, 9, 10
  - Радыскі, бручкі, рэпы — 17, 18, 22, 23, 27
  - Памідораў — 6, 9, 10
  - Зеляніўных культур (салаты, шпінату і інш.) — 6, 8-11
  - Капусты — 6-10
  - Цыбулі на зеляніну і перцу — 8-11
- Уборка
  - Ранняй капусты — 8, 9, 12, 13, 16, 17
  - Агуркоў і зеляніны — 1-3, 6, 8, 9, 12, 16-18
  - Ранняй бульбы і ранніх караняплодаў — 14-16, 18, 19, 24, 25
  - Суніц, парэчак, чарэшні, ранніх сліў і яблыкаў, вішань — 1-3, 6-8, 10, 11
- Праполка і апырскванне ўсіх культур супраць шкоднікаў і хвароб — 1-3, 14-16, 28, 29
- Паліванне і падкормліванне ўсіх культур — 8, 9, 14, 15, 30, 31
- Акуліроўка (прышчэпліванне пупышкай) яблынь, груш і іншых пладовых дрэў — 8, 9, 12

### Жнівень

**Дні, неспрыяльныя** для сяўбы і пасадкі любой культуры — 11-13, 25-28

**Спрыяльныя дні**

- Сяўба, пасадка
  - Агуркоў на расаду для цяпліц — 4, 5, 29-31
  - Радыскі, бручкі, рэпы — 14, 15, 18, 19, 23, 24
  - Салаты, шпінату, пятрушкі (ліставой) — 2-5, 29-31
  - Суніц — 4, 5, 14, 29-31
- Уборка
  - Сярэднеспелай капусты — 2-5, 8-11, 29-31
  - Агуркоў і памідораў — 2-5, 8-11, 29-31
  - Сярэднеспелай бульбы і караняплодаў — 13, 15, 16, 20, 21, 25, 26
  - Цыбулі і часнаку — 13, 15, 16, 20, 21, 25, 26
  - Сліў, груш, яблыкаў, вішань і іншых пладоў і ягад — 6, 8-11, 29-31
- Акуліроўка пладовых дрэў — 8, 9, 29-31
- Абрэзка ягаднікаў — 14, 20, 22, 23
- Нарыхтоўка сокаў з пладоў ягад — 10, 11, 31
- Кансерваванне — 17-19, 22, 23
- Праполка і апырскванне ўсіх культур супраць шкоднікаў і хвароб — 11-13, 25-28
- Паліванне і падкормліванне ўсіх культур — 4, 5, 14, 15, 23, 24, 29, 31

### Верасень

**Дні, неспрыяльныя** для сяўбы і пасадкі любой культуры — 7-9, 11, 21-23, 26

**Спрыяльныя дні**

- Сяўба, пасадка
  - Радыскі — 14-16, 19, 20
  - Пятрушкі і сельдэрэю на зеляніну — 1, 2, 5, 6
  - Суніц — 1, 2, 10, 27-29
  - Часнаку пад зіму — 19, 20
  - Пладовых і ягадных культур — 14-16, 19, 20
  - Руж, акацый і іншых дрэў і кустоў, што цвітуць — 1, 2, 27-29
- Уборка
  - Бульбы для працяглага захоўвання — 14-18, 22, 23
  - свежага спажывання — 19, 20, 28, 29
  - Буракоў, рэпы, рэдзькі і морквы — 14-18, 22, 23
  - Сліў, груш, яблыкаў, агрэсту — 12, 13, 16-18
  - Памідораў і агуркоў — 1, 2, 5-7, 27, 28
- Праполка і знішчэнне шкоднікаў па ўсіх культурах, апырскванне іх супраць шкоднікаў і хвароб — 7-9, 11, 21-23, 26
- Паліванне і падкормліванне ўсіх культур — 1, 2, 7, 8, 14, 15, 19, 20
- Нарыхтоўка сокаў з пладоў, кансерваванне пладоў і ягад, квашанне капусты — 14-16, 22, 23

### Кастрычнік

**Дні, неспрыяльныя** для сяўбы і пасадкі любой культуры — 4-6, 10, 19-21, 25, 31

**Спрыяльныя дні**

- Сяўба і пасадка
  - Пладовых дрэў і кустоў — 12, 13, 17, 18
  - Цыбулі і часнаку (пад зіму) — 23, 24
  - Морквы (пад зіму) — 12, 13, 17, 18
- Уборка
  - Бульбы для працяглага захоўвання — 11-13, 19, 20
  - свежага спажывання — 10, 17, 18
  - Морквы і іншых караняплодаў — 11-13, 19, 20
  - Позніх яблыкаў — 1, 2, 9, 10
- Культывацыя, праполка, апырскванне супраць шкоднікаў і хвароб усіх культур — 4-6, 10, 19-21, 25, 31
- Абрэзка дрэў і кустоў — 19, 20, 23
- Нарыхтоўка сокаў з пладоў і ягад, квашанне капусты — 11-13, 16-19, 20

### Лістапад

**Дні, неспрыяльныя** для сяўбы і пасадкі любой культуры — 1, 2, 9, 15-17, 24, 28, 29

**Спрыяльныя дні**

- Сяўба, пасадка
  - Насення яблынь, груш, сліў, вішань для атрымання сеянцаў — 7, 8, 25
  - Цыбулі і часнаку (пад зіму) — 19-23
  - Морквы (пад зіму) — 12-14
- Культывацыя, перакопванне, знішчэнне шкоднікаў — 1, 2, 9, 15-17, 24, 28, 29
- Нарыхтоўка сокаў з пладоў і ягад, квашанне капусты — 12-14, 22, 23
- Уцяпленне буртоў і сховішчаў — 10, 11

### Снежань

**Дні, неспрыяльныя** для сяўбы і пасадкі любой культуры — 8, 9, 12-14, 22, 23, 25, 27

**Спрыяльныя дні**

- Сяўба, пасадка
  - Агуркоў цяплічных сартоў на расаду (папярэдне праверыць на ўсходжасць) — 5, 6, 28, 29
  - Караняплодаў (радыскі ў цяпліцах і на падаконніку) — 10, 11, 17, 18
- Уборка радыскі ў цяпліцы — 10-14, 17, 18
- Паліванне раслін — 1, 2, 10, 11, 17, 18, 25, 26
- Праполка і знішчэнне шкоднікаў — 8, 9, 12-14, 22, 23, 25, 27
- Нарыхтоўка чаранкоў для вясенняга прышчэплівання (калі няма моцных маразоў) — 24, 28, 29
- Зімовае прышчэпліванне яблынь, груш, сліў — 24, 28, 29

**Альбін МАКАРЭВІЧ, аўтар-складальнік.**

■ ЗАКАНАДАЎСТВА

# Думайце аб пенсіі сёння

**МАЛАДЗЕЧНА. З 1 студзеня 2003 года ўвайшоў у сілу Закон Рэспублікі Беларусь "Аб персаніфікаваным (індывідуальным) уліку". Іншымі словамі, пачалася рэгістрацыя кожнага працуючага грамадзяніна рэспублікі ў фондзе сацыяльнай абароны насельніцтва. Кожнаму выдаецца страхавое пасведчанне дзяржаўнага сацыяльнага страхавання. І на кожную застрахаваную асобу адкрываецца індывідуальны асабовы рахунак.**

Тонкасці новаўвядзення тлумачыць галоўны інспектар фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь Таццяна Крыштапян:

**— Што такое персаніфікаваны (індывідуальны) улік і навошта ён?**

— "Індывідуальны" азначае "які тычыцца кожнага". Гэта вызначэнне адлюстроўвае сэнс новага віду ўліку: асобна для кожнага грамадзяніна ўлічваюцца яго правы на дзяржаўную пенсію, якую ён зарабляе на працягу ўсёй працоўнай дзейнасці. Пенсійныя правы ўлічваюцца на падставе таго, як чалавек удзельнічае ў дзяржаўным сацыяльным страхаванні, ці, прасцей кажучы, як ён сам і яго работадаўца уплачваюць страхавыя ўзносы.

Персаніфікаваны ўлік – гэта арганізацыя і вядзенне ўліку звестак аб кожным застрахаваным дзеля мэтаў дзяржаўнага сацыяльнага страхавання. Гэты ўлік патрэбны, каб чалавек, які ідзе на пенсію, не шукаў дакументы 15-гадовай даўнасці, не рабіў даведку аб працоўным стажы, па якой налічваюць пенсію. Цяпер такія звесткі ўвогуле цяжка сабраць. Вялікая колькасць прадпрыемстваў, асабліва малых, закрываецца. І чалавеку няма дзе знайсці аб сабе звесткі, аб сваім працоўным стажы.

**— Якія ў сувязі з гэтым абавязацельствы работадаўцаў і работнікаў?**

— Работнік зможа сачыць, колькі ўзносаў паступіла на яго асабовы рахунак. Гэта будзе відавочна з "разліковых", якія даюць напярэдадні зарплаты. Калі іх не даюць, трэба патрабаваць у работадаўцы. Урэшце, работнік можа прыйсці ў гарадскі фонд і даведацца аб сваёй зарплаце і ўзносах на дзяржаўнае сацыяльнае страхаванне.

Работадаўца для ўвядзення персаніфікаванага ўліку павінны падаць звесткі для назначэння пенсіі на кожнага працуючага.

Перш за ўсё работадаўцу неабходна зарэгістраваць у фондзе сваіх работнікаў, падаць на іх форму з анкетнымі дадзенымі. На яе падставе будзе адкрыты індывідуальны асабовы рахунак пад пэўным страхавым нумарам і зроблена пасведчанне сацыяльнага страхавання.

**— Што такое індывідуальны асабовы рахунак?**

— Спачатку трэба атрымаць пашпарт новага ўзору. У ім ёсць асабісты нумар. Ён і стане страхавым нумарам у страхавым пасведчанні. Напрыклад, асабісты нумар у пашпарце 4190858B065PB7. Першая лічба ўказвае на пол і ў якім стагоддзі нарадзіліся. 3 – мужчына, 20 ст., 4 – жанчына, 20 ст., 5 – мужчына, 21 ст., 6 – жанчына, 21 ст.

Іншых лічбаў уперадзе быць не можа. Наступныя шэсць лічбаў запар – гэта чысло, месяц і год вашага нараджэння. Літара азначае, у якой мясцовасці атрыманы пашпарт: А – Мінск, В – Мінская вобласць. Тры лічбы пасля літары гавораць аб тым, які па ліку чалавек атрымлівае пашпарт з аднолькавай датай нараджэння. Наступныя дзве літары гавораць пра тое, што вы грамадзянін Рэспублікі Беларусь. Апошняя лічба – кантрольная, залежыць ад усіх знакаў, што стаяць уперадзе. І вылічваецца па спецыяльным алгарытме. Такім чынам, асабісты нумар поўнасцю гаворыць пра чалавека.

Індывідуальны асабовы рахунак — пастаянны страхавы нумар, які не паўтараецца больш ні ў аднаго грамадзяніна Беларусі. Пераязджаеце вы ў іншую вобласць, пераходзіце на іншую работу ці працуеце на сумяшчальніцтву хоць у некалькіх месцах, страхавы нумар застаецца нязменным, і звесткі прыгаваюць паступаць на ваш асабовы рахунак. Нават калі зменіце прозвішча, імя, імя па бацьку. Такім чынам, вы перастаяце залежаць ад захаванасці сваёй працоўнай кніжкі.

Працоўныя кніжкі пакуль не адмянялі. Але цяпер яны патрэбныя калі толькі падзяку ці вымову запісаць.

Індывідуальны асабовы рахунак не даецца дзецям да 14 гадоў, тым, хто не мае пашпарта, і зняволеным. Людзям, што маюць пашпарты старога ўзору, іншаземцам, што жывуць і маюць від на жыхарства ў Беларусі, даецца часовыя асабовыя рахункі.

Атрымліваюць пасведчанні сацыяльнага страхавання ў сябе на рабоце. Беспрацоўныя – у гарадскім цэнтры занятасці.

**— Ці патрэбны персаніфікаваны ўлік прадпрымальніку?**

Тыя, хто самастойна ўплачвае страхавыя ўзносы (прадпрымальнікі, творчыя работнікі, фермеры) будуць самі падаваць звесткі аб сабе і асабіста атрымліваць пасведчанне сацыяльнага страхавання ў органах фонду. Прадпрымальнікі, якія не зарэгістраваныя ў фондзе, не змогуць мець асабовы рахунак і не атрымаюць страхавое пасведчанне. Гэта значыць, чалавек не зможа атрымаць працоўную пенсію. Каб пазбегнуць цяжкасцяў, неабходна прайсці рэгістрацыю ў органах фонду і ўплачваць страхавыя ўзносы ў поўным аб'ёме.

**– Ці можна адмовіцца ад рэгістрацыі? Якія будуць наступствы?**

— Не. Гэта закон. Кожны чалавек задумваецца аб сваім будучым. Для многіх пенсія будзе адзінай крыніцай існавання. А калі вы не зарэгістраваны ў фондзе, то пры назначэнні яе інфармацыя аб вашай працоўнай дзейнасці з 1 студзеня 2003 года не будзе ўлічвацца з-за яе адсутнасці.

**Ірына РАБУШКА.**

### Што значаць лічбы ў асабістым нумары ў пашпарце

**Напрыклад, асабісты нумар у пашпарце**

**4190858B065PB7**

- лічба ўказвае на пол і ў якім стагоддзі нарадзіліся
- шэсць лічбаў запар – гэта чысло, месяц і год вашага нараджэння.
- літара азначае, у якой мясцовасці атрыманы пашпарт
- тры лічбы гавораць, які па ліку чалавек атрымлівае пашпарт з аднолькавай датай нараджэння.
- літары гавораць, што вы грамадзянін Рэспублікі Беларусь.
- лічба – кантрольная, залежыць ад усіх знакаў, што стаяць уперадзе.

## Курсы валют НБ РБ

| | 16.01 руб. | 23.01 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1932,00 | 1938,00 |
| Еўра | 2032,752 | 2072,50 |
| Злоты | 506,29 | 501,36 |
| Літ | 588,84 | 600,16 |
| Расійскі рубель | 60,73 | 60,93 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1930/1950 | 1930/1955 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 15.01 | 22.01 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 10900 | 11300 |
| Сасіскі, 1 кг | 4990 | 4900 |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Рыс, 1 кг | 720 | 740 |
| Грэчка, 1 кг | 1050 | 1050 |
| Цукар, 1 кг | 950 | 1000 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1200 | 1200 |
| Алей, 1 л | 1600 | 1650 |
| Маянэз, 200 г | 350 | 430 |
| Кава «Пеле, 100 г | 2000 | 2000 |
| Шпроты, бляшанка 160 г. | 620 | 600 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 700 | 600 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 750 | 700 |
| Капуста, 1 кг | 700 | 790 |
| Морква, 1 кг | 1300 | 700 |
| Лімоны, 1 кг | 2600 | 2400 |
| Апельсіны, 1 кг | 1650 | 1700 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Малако, 1 л | 700 | 700 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 4000 | 4000 |
| Тварог, 1 кг | 1800 | 1800 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 2000 | 1800 |
| Бульба, 1 вядро | 3400 | 3500 |
| Яблыкі, 1 кг | 1300 | 1300 |

■ ПЫТАННЕ – АДКАЗ

## Ёлкі на звалцы

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні з галоўнай плошчы ўбралі навагоднюю ёлку. У кватэрах іх таксама не засталося. Куды дзенуць зялёных прыгажунь? Пра гэта пытаецца маладзечанка Наталля Гіль.**

У дзяцінстве мы верылі ў тое, што з ёлак зробяць паперу, сшыткі, лыжкі... Але дырэктар унітарнага прадпрыемства "Камунальнік" Аляксей Дралоў разбурыў гэтую казку. І адказаў:

— Лепшымі, таўсцейшымі ёлкамі будуць тапіць лазню. Астатнія выкінуць на гарадскую звалку.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ГРАМАДСКІ ТРАНСПАРТ

# Падаражанне не выратуе

**ВІЛЕЙКА. Транспарт – адна з галін гаспадаркі, якая з'яўляецца для насельніцтва яскравым індыкатарам эканамічнага стану. Аўтобусны парк № 5 Мінскага абласнога вытворчага аўтатранспартнага ўпраўлення перажывае свае не найлепшыя часы. Да 25% выдаткаў фінансуецца дзяржавай, але для поўнай самаакупнасці тарыфы на праезд павінны быць удвая большыя. Узровень зношанасці тэхнікі дасягае 70%. За апошні год атрыманы два аўтобусы, а ўсяго парк налічвае 55 адзінак тэхнікі.**

Дырэктар аўтобуснага парка Мікалай Жарнікаў, які заняў сваю пасаду ў лютым 2002 года, ацэньвае сітуацыю стрымана. На яго думку, жыццё ідзе наперад. Праблемы,



**Мікалай Жарнікаў, дырэктар аўтобуснага парка ў Вілейцы, лічыць, што праблемы прадпрыемства будуць вырашацца.** Фота Віталя ПАЎЛОЎСКАГА.

якія стаяць перад прадпрыемствам, вырашаюцца і будуць вырашацца далей.

Па словах Мікалая Жарнікава, павышэнне тарыфаў за праезд у грамадскім транспарце не выратоўвае эканамічны стан аўтобуснага парка, таму што цэны на паліва-змазачныя матэрыялы растуць значна хутчэй. Сітуацыя прымушае займацца нетрадыцыйнымі відамі дзейнасці. Гэткім чынам за 11 месяцаў 2002 года парк здолеў зарабіць каля 21 мільёна рублёў. У арэнду аддадзены пункт мыцця транспарту, незапатрабаваныя памяшканні на аўтавакзале, у інтэрнацэ, праводзіцца тэхагляд, рамантуюцца машыны.

Абвастраюць сітуацыю для аўтобуснага парка канкурэнты-прыватнікі, якія з'явіліся на рынку транспартных паслуг. Мікалай Жарнікаў лічыць, што канкурэнцыя павінна быць. Магчыма, яна дапаможа вырашыць пэўныя праблемы. Але правілы перавозак пасажыраў павінны быць адзіныя для ўсіх. На яго думку, уладальнікі прыватных маршрутных таксі практычна ні за што не адказваюць. Яны выбіраюць толькі самыя лепшыя ўчасткі маршрутаў. Мікалай Дзмітрыевіч спадзяецца, што райвыканкам, праінфармаваны адміністрацыяй аўтапарка аб рабоце маршрутных таксі, выправіць сітуацыю. А менавіта, павінны быць распрацаваны графік, размеркаваны маршруты – прыватнікі павінны працаваць не толькі на самых рэнтабельных з іх. У адпаведнасці з новымі законамі аб дарожным руху і правілах перавозкі пасажыраў, прыватныя перавозчыкі мусяць праходзіць адпаведнае навучанне, тэхніка павінна правярацца інжынерна-тэхнічнымі службамі, шафёры павінны праходзіць медыцынскі агляд.

На цяперашні час у горадзе пяць аўтобусных маршрутаў. У дадзенай сітуацыі гэткая маршрутная сетка з'яўляецца аптымальнай. Яе пашырэнне патрабуе дадатковых выдаткаў, а магчымасці аўтапарка ў набыцці новай тэхнікі вельмі абмежаваныя. Але праблема здымаецца праз правядзенне капітальнага рамонту – за тры апошнія гады яго прайшлі ўсе гарадскія аўтобусы. Павышэнне камфортнасці для пасажыраў, напрыклад, ацяпленне салонаў гарадскіх аўтобусаў, таксама праблемнае, таму што паліва на гэта не выдзяляецца.

Апошнім часам адміністрацыя шмат робіць для работнікаў аўтапарка, якія пражываюць у інтэрнаце па вуліцы Шубіна, 5. З мэтай эканоміі ўсталяваныя лічыльнікі спажывання цяпла, у здадзеным у арэнду памяшканні адчынілася крама.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

# Паўтары сотні прызёраў і фіналістаў

**Працяг. Пачатак у мінулым нумары.**

### Віды адзінаборстваў

Адрозненне паміж адзінаборствамі ў тым, чым можна наносіць удары і па якіх месцах цела. Таксама ў кожным з відаў ёсць свае спецыфічныя, выпрацаваныя традыцыяй правілы.

Кікбоксінг мае раздзелы. Так, у лайт-кантакце і ў сэмі-кантакце ўдары наносяцца не на поўную моц, у адрозненне ад.фул-кантакта. Ёсць раздзел з выкарыстаннем так званых лоу-кікаў. Ёсць сольныя кампазіцыі пад музыку.

У тайландскім боксе маюць значэнне шматвекавыя традыцыі, гучыць своеасаблівая музыка. Тут, напрыклад, дазваляецца праводзіць кідкі.

У рукапашным баі можна выкарыстоўваць балявыя прыёмы. У баях без правіл свой антураж: манеж, абнесены сеткай. Тут можна дабівацъ ляжачага. Сайкіндо дазваляе ўдушэнне, а кік-джыцу – гэта тое ж сайкіндо з абмежаваным у 15 секунд дабіваннем.

Ушу – гэта японскі від, тут вялікая ўвага надаецца дыханню. Ёсць сольны раздзел – тулу. Баявы раздзел называецца саньда. Бываюць аматарскія і прафесійныя баі. На аматарскіх спаборніцтвах спартсмены праводзяць некалькі паядынкаў. Тут рэгламент, напрыклад, 3 раунды па 2 хвіліны. У прафесійных спаборніцтвах усё вырашае адзін паядынак. Ён можа доўжыцца, напрыклад, 5 раундаў па 3 хвіліны.

Найбольш прэстыжным з'яўляецца, натуральна, алімпійскі від спорту – бокс. Узроўню падрыхтаванасці майстра спорту па боксе адпавядае далёка не кожны чэмпіён свету па іншых адзінаборствах. У свеце шмат федэрацый, кожная з якіх вызначае сваіх чэмпіёнаў. У Беларусі ёсць адзіная агульная федэрацыя па тайландскім боксе і кікбоксінгу.



Віцэ-чэмпіён Еўропы, неаднаразовы пераможца чэмпіянатаў Беларусі чысцінец Уладзіслаў Храмцоў атакуе саперніка. Фота з архіва "РГ".

### Поспехі на рынгу і ў жыцці

Крыху раскажам пра апошнія спаборніцтвы байцоў "Гладыятара". На адкрытым чэмпіянаце Мінска па рукапашным баі першынствавалі Павел Лапата (да 75 кг, трэнер С. Панцюхоў) і Дзмітрый Мандрык (да 60 кг, трэнер Весялоў).

На Кубку краіны па тайландскім боксе каманда клуба з 15 чалавек заваявала 13 медалёў у розных узростах. Асабліва вызначыліся браты Якуніны сярод кадэтаў (да 14 гадоў). Спачатку малодшы Павел (42 кг), перамогшы ў двух баях накаўтам, саступіў у фінале праціўніку, які вышэй яго на 17 см. Потым старэйшы Віталь (51 кг) у фінале сустрэўся са стрыечным братам крыўдзіцеля Паўла і перамог таго накдаўнам, заняўшы першае месца. На жаль, яно стала адзіным пераможным з ажно 13 прызавых, хаця раней "гладыятары" заваёўвалі па 5-6 першых месцаў. Прычына ў тым самым непрыстасаваным трэніровачным памяшканні ў Чысці. Яно не ацяпляецца, і гэтай марознай зімою займацца там немагчыма.

Кубак краіны па саньда выйграў Эдуард Вазновіч. Гэты чэмпіён Еўропы па тайландскімм боксе з'яўляецца чэмпіёнам Беларусі па тайландскім боксе, кікбоксінгу, рукапашным баі. Цяпер пераможу і ў саньда.

Два месяцы правёў у Японіі Аляксандр Панцюхоў, паехаўшы туды са зборнай Расіі. Стаў там прызёрам чэмпіянату свету па сайкіндо (86 кг), двойчы перамог накаўтам, а саступіў куміру мясцовай публікі.

Цікава даведацца, чым займаюцца выхаванцы клуба, стаўшы дарослымі людзьмі. Лёсы іх розныя. Многія праявілі сябе ў арміі, служаць у спецназе, сталі "крапавымі бярэтамі". Гэта, напрыклад, Аляксандр Кароль, Аляксандр Пінчук і Андрэй Сокал. Многія проста працуюць, так Міхаіл Д'ячэнка скончыў спартыўную ВНУ і зараз мае работу ў Кіеве.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ МІНІ-ФУТБОЛ

## ШАНС ВЕТЭРАНУ не пакарыўся

**СМАРГОНЬ. Мясцовы чэмпіянат сабраў дзесяць каманд. Гулялі яны ў круг на працягу месяца. Удзельнікі былі даволі роўныя па сілах, аб чым сведчыць і колькасць набраных ачкоў, хіба толькі 14-гадовыя юнакі не здолелі скласці якаснай канкурэнцыі.**

Выніковая табліца: 1. Ветэран – 21 ачко. 2. Шанс – 20. 3. ДЮСШ-86-Мобіл-Стандарт – 17. 4. СКЗ – 16. 5. Сокал – 16. 6. Вілія – 14. 7. ВЧ 1259 – 12. 8. Трактар – 6. 9. Вікторыя – 6. 10. ДЮСШ-88-Форвест – 1.

Тут ішла спрэчка за месца ў чацвёрцы мацнейшых, якая мусіла працягнуць барацьбу ў рамках плэй-оф. СКЗ аказаўся вышэй за "Сокал", складзены з выхаванцаў ДЮСШ розных гадоў, за кошт асабістай сустрэчы, выйгранай з лікам 5:1.

Паўфіналы. Ветэран – СКЗ 6:2. Шанс – ДЮСШ-86-Мобіл-Стандарт 3:0.

Матч за 3 месца. СКЗ – ДЮСШ 2:1.

Фінал. Шанс – Ветэран 2:0.

Склад пераможцаў: варатар Віктар Дамуць, палявыя Алег Давідоўскі, Вадзім Дыро, Дзмітрый Ковель, Леанід Ковель (ён на мінулым тыдні выступаў у складзе юнацкай зборнай краіны на міжнародным турніры памяці Валянціна Гранаткіна ў Санкт-Пецярбургэ, дзе беларусы занялі пачэснае трэцяе месца з васьмі каманд, стаўшы лепшымі з прадстаўнікоў былога СССР), Аляксандр Мушынскі, Алег Попель (зараз гуляе ў складзе маскоўскага "Лакаматыва" на Кубку садружнасці ў Маскве), Віталь Ушакевіч, Яўген Шоць, Павел Шутовіч. Трэнер Уладзімір Бацько.

Лепшымі на турніры былі названы варатар Віктар Дамуць, абаронцы Іван Смольскі (ДЮСШ-86-Мобіл-Стандарт) і Віталь Навіцкі (СКЗ), нападаючы Павел Шутовіч. Уладзіслаў Дукса з "Ветэрана" быў лепшым з ураджэнцаў раёна (не горада), а таксама забіў больш за іншых галоў – 14. Яго партнёра па камандзе Андрэя Юркевіча назвалі наогул лепшым гульцом турніру. Алег Попель жа атрымаў спецыяльны прыз ад арганізатараў за вернасць камандзе.

Галоўным сакратаром быў Аляксандр Плюта, а галоўным суддзёй – Аляксандр Лобан.

## АЎТА ўсіх абагнала

**МАЛАДЗЕЧНА. Дзесяць каманд згулялі ў круг за два тыдні на снежным пакрыцці ў хакейнай каробцы на стадыёне ДЮСШ.**

Выніковая табліца: 1. Аўта – 25 ачкоў. 2. ДЮСШ-87-Юні – 21. 3. Арці – 19. 4. Агеньчык – 15. 5. Верас – 15. 6. Геляпова – 10. 7. Дзіна – 9. 8. Крыніца – 8. 9. ДЮСШ-88-Змена – 7. 10. Зорка – 3.

Каманда-пераможца (трэнер Анатоль Ішчанка) атрымала футбольны мяч. Шалікі з сімволікай "Маладзечна-2000" далі лепшаму варатару Андрэю Троцкаму (Аўта), лепшаму абаронцу Паўлу Бурачонку (Арці), лепшаму ў сярэдняй лініі Яўгену Цярэшчанку (Аўта), лепшаму нападаючаму Руслану Рагуновічу (Верас), самаму універсальнаму Паўлу Мазуру (Арці), лепшаму бамбардзіру Дзмітрыю Чурыліну (Аўта) – 15 галоў, самаму перспектыўнаму Мікіту Дудко (Агеньчык) – 1988 г.н., самаму тэхнічнаму Аляксею Мацкевічу (Дзіна). Галоўным суддзёй турніру быў Віктар Дзмітрачкоў.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ТУРЫЗМ

## Падведзены вынікі спаборніцтваў

**Маладзечанскі турклуб "Пілігрым" падвёў вынікі спаборніцтваў турысцкіх гурткоў за 2001-2002 гады.**

Першае месца занялі прадстаўнікі СШ №5, дзе кіраўніком з'яўляецца настаўнік фізічнай культуры Аляксандр Страх. Яны ўзнагароджаны граматай Маладзечанскага турклуба "Пілігрым" і каштоўным прызам — спальным мяшком. Пераможцы набралі 83 балы. На другім месцы з 76 баламі турысцкі гурток Маладзечанскага дзяржаўнага політэхнічнага каледжа, які ўзначальвае Міхаіл Есьмановіч. Трэцімі сталі вучні Беларускай гімназіі пад кіраўніцтвам Аксаны Свярскай (47 балаў).



Аляксандр Страх з падарункам. Фота Алега ГАРУНОВІЧА.

Падобны чэмпіянат праводзіцца і ў 2002-2003 гадах. Жадаючыя паўдзельнічаць могуць азнаёміцца з умовамі спаборніцтваў у турклубе "Пілігрым".

**Сяргей БЯЛКОЎ.**

■ ЛЫЖНЫЯ ГОНКІ

## Мядзялчанкі прарываюцца

**МЯДЗЕЛ. Чэмпіянат Беларусі прайшоў у Раубічах. Там выступілі выхаванкі Мядзельскай ДЮСШ Вольга Васілёнак (1980 г.н., змагаецца сярод дарослых) і Ірына Нафрановіч (1984 г.н., юніёрскі раздзел).**

У першы дзень у адсутнасці расіянак, што абараняюць колеры беларускага сцяга, Васілёнак заняла чацвёртае месца ў гонцы на 15 км класічным стылем з масавага старту. Нафрановіч на гэткай жа дыстанцыі была трэцяй, саступіўшы ўсяго 2 секунды другому месцу.

На другі дзень праводзіліся гонкі з праследаваннем: спачатку дыстанцыя 5,6 км класічным стылем, а потым праз дзве гадзіны па яе выніках тыя ж 5,6 км ужо свабодным стылем. Васілёнак стала зноў чацвёртай, але сярод карэнных беларусак яна ўжо на другім месцы. І Нафрановіч не змяніла свайму трэцяму месцу.

Трэці дзень быў прысвечаны свабоднаму стылю. На 11,2 км Васілёнак зноў жа была чацвёртай, зноў жа другой сярод беларусак, саступіўшы першай толькі тры секунды.

А зараз Вольга і Ірына ў складзе нацыянальнай зборнай адправіліся ў італьянскі Тарвізіо на буйныя комплексныя спаборніцтвы зімовай Універсіяды.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Табло

■ КАНТРОЛЬНЫЯ МАТЧЫ

**18.01, Мінск, крыты манеж**
**Маладзечна-2000 – Зорка-ВА-БДУ 1:2 (0:2)**
Галы: Лявончык (82); (31), (35)

**Маладзечна-2000 – Зорка-ВА-БДУ 3:1 (0:1)**
Галы: Грыхуцік (49, 61, 69-п); (43)

У першым, прайграным, матчы ў складзе нашай каманды згулялі ўсе навічкі, якія ў мінулым нумары "РГ" былі прадстаўлены праз інтэрв'ю з Вячаславам Акшаевым. Разам з імі былі некаторыя футбалісты "асновы" мінулага сезона, сярод якіх з мясцовых выхаванцаў Дараховіч, Макрыцкі і "на замене" Лявончык. У другім матчы свае здольнасці праяўлялі пераважна маладзечанскія гульцы, а таксама трое паўабаронцаў 1982-га г.н. з Жодзіна, якія зараз знаходзяцца на праглядзе. Тут добра дзейнічалі Дрозд у якасці апошняга абаронцы і Грыхуцік, які адзначыўся хет-трыкам. Па складу сапернікаў нельга адназначна сказаць, што ў другім матчы прымалі ўдзел дублёры.

Уражанні ад штучнага пакрыцця ў крытым манежы засталіся самыя найлепшыя. Гэта зусім не тое, што мясіць зямлю са снегам.

■ ІНВАСПОРТ

**Паралімпійскі камітэт Беларусі назваў лепшых спартсменаў-інвалідаў краіны за 2002 год.**

Прыемна зазначыць, што трэцім у гэтым рэйтынгу стаў маладзечанец Віктар Жукоўскі. Гэты цалкам невідушчы атлет у ліпені стаў двухразовым чэмпіёнам свету па лёгкай атлетыцы ў Францыі, перамогшы ў скачках, адзінарным і трайным. У сакавіку ж дастойна (блізка ад прызавых месцаў) выступіў у якасці лыжніка на зімовых Паралімпійскіх гульнях у амерыканскім Солт-Лэйк-Сіці.

■ ВАЛЕЙБОЛ

**МЯДЗЕЛ. Пяць жаночых каманд разыгралі першынство раёна. Урэшце ў матчы за трэцяе месца прадстаўніцы пасёлка Занарач перамаглі сапернiц з горада Мядзела 2:1. У фінале СШ№2 (Мядзел) перамагла 2:1 СШ№2 (Нарач).**

Лепшыя: Вольга Шчаўкунова (Мядзел), Марына Навасёлава (Нарацкая СШ№2), Наталля Ермаковіч (Мядзелская СШ№2). Судзілі Віктар Каравацкі і Леанід Шыдлоўскі.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ АНОНС

**24-26.01, Маладзечна, зала ЗМК**

Занальны турнір Кубка вобласці па міні-футболе

Збяруцца каманды Вілейскага раёна, Заслаўя, ЗМК (Маладзечна), Сябрына (Маладзечна), Забудова (Маладзечанскі раён), Мядзелскага раёна. У фінальны турнір выходзіць адна каманда.

Пачатак у пятніцу з 14-30, у суботу і нядзелю з 10-00.

 



## ВІНШАВАНКІ

Віншуем **Валянціну і Мікалая Міклушаў** з сярэбраным вяселлем!

Пусть ангел вашу жизнь хранит,
Ведь в жизни всякое бывает.
Пусть горе в двери не стучит,
А радость пусть не забывает.

*З любоўю зяць, дачка і сваццця.*

З першым юбілеем любімую дачушку **Марту** віншуюць усе родныя!



Будь умна и будь красива,
Будь добра і незлобива,
Будь веселой и смешной,
Скромной, вежливой, простой!
Будь честна и будь правдива,
Будь сильна и справедлива,
Будь настойчивой, прямой,
Устремленной и... родной!
Моцнага здароўя, поспехаў у вучобе, здзяйснення запаветных жаданняў.

Віншуем з днём нараджэння любімую дачушку і сястрычку **Наташу Радзевіч**! Няхай збываюцца ўсе твае мары. *Твая сям'я.*

Віншую з днём нараджэння **Ніну Уладзіміраўну Васільеву** з Валожына! Жадаю здароўя, кахання, радасці, поспехаў. *Уладзімір.*

Любімую дачушку і сястру **Наталлю Вярбоўскую** віншуем з 16-годдзем! Жадаем здароўя, шчасця, поспехаў у вучобе. *Тата, мама і сястра.*

Віншуем **Ніну Уладзіміраўну Васільеву** з Валожына з днём нараджэння! Жадаем здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту. *Дзеці.*

Віншуем з 55-годдзем **Алега Аляксеевіча Кісліцкага**! Жадаем моцнага здароўя, дабрабыту. *Жонка, дзеці, зяць, нявестка і ўнучкі.*

Паважаныя **Зінаіда Уладзіміраўна і Канстанцін Уладзіміравіч Паплёўкі**! Віншуем з 25-годдзем сумеснага жыцця! Жадаем здароўя, шчасця і дабра. *Паплёўкі.*

Дарагая **Аксана Аляксееўна Лазар**! Віншуем з днём нараджэння! Няхай шчасце, здароўе і каханне ідуць з табой па жыцці. *Паплёўкі.*

Дарагая **Зінаіда Уладзіміраўна Паплёўка**! Віншуем з днём нараджэння! Няхай табе спадарожнічаюць Вера, Надзея, Любоў. *Паплёўкі.*

# Галалёд усюды

**Змена надвор'я, калі пасля працяглых маразоў наступіла адліга, прынесла новыя клопаты і людзям, і бальніцам. Раней былі шматлікія выпадкі абмаражэння. Цяпер рэгіён адчувае на сябе ў поўнай ступені капрыз з назвай галалёд.**

СМАРГОНЬ. Загадчык траўматалагічнага аддзялення Ігар Дзем'янчук:

— Колькасць пацярпелых значна прыбавілася. Прычым, шмат людзей з чэрапна-мазгавымі траўмамі. Для прыкладу: да нас за год паступае каля 15 чалавек, ужо лечым пяць такіх. У асноўным трапляюць людзі сталага ўзросту, алкаголь прымушае падаць і маладых. Расцяжэнні, ушыбы... гэтага таксама хапае. Звычайна 40 месц занята, сённяшняя зіма незвычайная — людзей усё больш і больш.

АСТРАВЕЦ. На стацыянарнае лячэнне трапляе невялікая колькасць людзей.

Хірург Уладзімір Мажэйка:

— Пацярпелых прыбаўляецца. Замест звычайных 50 цяпер каля 70-ці. Траўмы не самыя складаныя, хаця часта сустракаецца пераломам шчыкалаткі. Пакутуюць як пенсіянеры, так і працаздольнае насельніцтва. Ды яшчэ святы прайшлі, што не магло не адбіцца на здароўі людзей. З вёсак, адзначу, людзей больш. У горадзе тратуары, а ў сваіх дварах ці на слізкіх дарогах устаяць на нагах бывае складана.

МЯДЗЕЛ. Траўматолаг Васіль Катляроў:

— Асноўны кантынгент, які да нас звяртаецца, складаюць бабулі і дзядулі. Хаця ёсць і моладзь. Раніцай і вечарам большы наплыў пацярпелых: ідзём на працу і вяртаемся. Траўмы суставаў даволі складаныя, адбіраюць шмат часу на лячэнне.



Каля беларускай гімназіі. Толькі дзецям у радасць пакатацца на лёдзе.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

АШМЯНЫ. Намеснік галоўнага доктара па медыцынскай часці Аляксандр Ануфрыеў сказаў, што зіма нічым не вылучаецца ад іншых. Асаблівага наплыву хворых не назіраецца. Калі сустракаюцца пацярпелыя, то з пераломамі шчыкалатак ці вывіхамі плечавых суставаў.

— Людзі падаюць і абапіраюцца на рукі, што становіцца прычынай траўм. Хворых з чэрапна-мазгавымі пашкоджаннямі амаль няма.

МАЛАДЗЕЧНА. Загадчык хірургічнага аддзялення гарадской паліклінікі Ігар Салагуб:

— Мы залежым ад надвор'я. Хворых на 50% больш, чым звычайна. На стацыянарнае лячэнне прыбывае невялікая частка тых людзей, якія спачатку звяртаюцца ў паліклініку. А такіх шмат. У нявярозым стане большасць. Звычайна пасля 21.00 ды яшчэ пасля атрымання заработнай платы.

ВІЛЕЙКА. "Людзі з узростам пасля 50 гадоў найбольш трапляюць на прыём", — такую катэгорыю пацярпелых выдзеліў загадчык траўматалагічнага аддзялення Тадэвуш Люля.

ВАЛОЖЫН. Траўматолаг Генадзь Скорб:

— У панядзелак у бальніцу трапілі адразу 22 "дэсанты". На 50% павялічылася траўматычнасць.

Каб "не зламацца", дастаткова прыняць на ўвагу некаторыя простыя "парады":

- **людзям сталага ўзросту на вуліцу без неадкладнай патрэбы не выходзіць;**
- **рукі пры хадзьбе ў кішэнях не трымаць;**
- **выпіваць дома;**
- **насіць з сабой салому...**
- **берагчы сябе.**

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

## Звесткі з прадпрыемстваў аб неабходнасці ў кадрах

| Назва прадпрыемства / Прафесія, пасада | Неабходна (чалавек) |
|---|---|
| **Аўтабаза райспажыўтаварыства** (тэл. 7-00-19) | **7** |
| Вадзіцель аўтамабіля | 6 |
| Матарыст | 1 |
| **ААТ "Электрамодуль"** (тэл. 58-2-18) | **25** |
| Карэкціроўшчык ваннаў | 5 |
| Ліцейшчык | 5 |
| Наладчык станкоў з лічбавым праграмным кіраваннем | 4 |
| Слесар | 5 |
| Электраманцёр па рамонту электраабсталявання | 5 |
| Перакладчык | 1 |
| **Станказавод** (тэл. 58-3-28) | **87** |
| Заточнік | 1 |
| Абрубшчык | 8 |
| Аператар станкоў з лічбавым праграмным кіраваннем | 7 |
| Працяжчык | 10 |
| Рэзчык | 5 |
| Свідравальшчык | 5 |
| Слесар-сантэхнік | 1 |
| Стрыжаншчык | 8 |
| Габлявальшчык | 6 |
| Токар | 15 |
| Токар-расточнік | 5 |
| Фрэзероўшчык | 5 |
| Электрагазазваршчык | 2 |
| Майстар | 1 |
| Начальнік бюро | 1 |
| Начальнік аддзела | 1 |
| **«Забудова» АЗС АСП** (тэл. 9-04-05) | **1** |
| Галоўны бухгалтар | 1 |
| **Завод будматэрыялаў** ("Забудова", тэл. 99-5-70) | **1** |
| Галоўны бухгалтар | 1 |
| **Лясгас** (тэл. 3-42-71) | **1** |
| Пчалавод | 1 |
| **МПМК-197 СУП ААТ «Забудовабуд»** (7-11-14) | **16** |
| Бляхар | 1 |
| Муляр | 15 |
| **ААТ «Аддзелачнік-198»** (7-56-73) | **4** |
| Матарыст | 1 |
| Тынкоўшчык | 3 |
| **Фабрыка музінструментаў** (7-00-53) | **5** |
| Каваль | 1 |
| Машыніст кампрэсарнай устаноўкі | 1 |
| Рамшчык | 2 |
| Слесар па вентыляцыі | 1 |

**Паводле звестак цэнтра занятасці, Маладзечна.**

## ЗНАЁМСТВЫ

44/165/68. Пазнаёмлюся з мужчынам для стварэння сям'і. Згодная на пераезд. Валожын, галоўпаштамт, п/п МС 0791895.

Мне 32/165, в/а, прыемная і добрасумленная бландзінка, смачна гатую. Ты — высокі, пажадана з жыллём у гарадах. Маладзечна-7, п/п МС 0698478.

Мужчына 49 год пазнаёміцца з жанчынай без дзяцей, якая валодае добрымі якасцямі. Маладзечна, галоўпаштамт, п/д №12984.

50/162/72. Для сяброўства пазнаёмлюся з прыемным мужчынам. Маладзечна-4, а/с 9.

## Купон 4

рэгіянальная газета

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

ТЭКСТ

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

### Звярніце ўвагу

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету! Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

## Кінатэатр «Радзіма»

**24-26 студзеня. "Цар Скарпіёнаў"**, ЗША, прыгоды – у 17.00, 19.00 і 21.00 (акрамя 23 студзеня).
**27 студзеня – 2 лютага. "Нястрымаяныя"** – у 17.00, 19.00 і 21.00.
**30 студзеня. "Чалавек-павук"** – у 17.00 (ільготны), 19.00 і 21.00.
**ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ**
**25 студзеня. "Фокус-покус"**, ЗША, прыгоды – у 13.00.
**26 студзеня. "Ну, пачакай!"**, мультпраграма – у 13.00.
Дыскатэка "Медыум" праводзіць 25 студзеня ў 21.00 студэнцкую вечарынку. Лепшыя Таццяны горада – толькі ў нас! Ім скідка 50% (па прад'яўленні дакумента). Уладальнік шчаслівага білета атрымае ў падарунак фотаапарат. Прыходзьце! Вас чакае шмат сюрпрызаў!
Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

## ■ ІМЯНІНЫ

**24 студзеня**
**Праваслаўныя**: Сцепаніды, Фядоссі, Міхаіла.
**Каталіцкія**: Феліцы, Рафала, Францішка.
**25 студзеня**
**Праваслаўныя**: Таццяны, Пятра, Савы.
**Каталіцкія**: Паўла.
**26 студзеня**
**Праваслаўныя**: Елізара, Пятра.
**Каталіцкія**: Паўліны, Палікарпа, Цімафея.
**27 студзеня**
**Праваслаўныя**: Ніны, Адама, Аўсея, Веньяміна.
**Каталіцкія**: Анелі, Пшыбыслава, Пшэмыслава, Яна.
**28 студзеня**
**Праваслаўныя**: Івана, Паўла, Прохара.
**Каталіцкія**: Аўгусціна, Валерыя, Тамаша.
**29 студзеня**
**Праваслаўныя**: Гаўрылы, Максіма, Пятра.
**Каталіцкія**: Валяр'яна, Здзіслава, Францішка.
**30 студзеня**
**Праваслаўныя**: Антона.
**Каталіцкія**: Марціна.

## ■ ТВАЁ ІМЯ

# Таццяна

Паходжанне гэтага імя да сённяшняга дня не ўстаноўлена. Адна версія – гэта "Тацыус" – імя сабінскага цара, а значыць, мае лацінскія карані. Другая – ад грэчаскага слова "татто" – устанаўліваць, вызначаць. У дзяцінстве Таня часта бывае лідэрам сярод аднагодкаў, а ў яе характары можна знайсці нямала хлапчуковых рысаў. Здараецца, што бацькам цяжка са сваёй рухавай дачкой, хаця і асабліва непаслухмянай назваць яе нельга.

Таня – чалавек эмацыянальны. Яна быццам бы і знаходзіцца ў баку, але разам з тым ёй так хочацца стаць лідэрам. Наогул, Таня – чалавек, надзелены рознымі здольнасцямі. Яна наведвае і спартыўныя секцыі, і танцавальны гурткі. Дзяўчынай яна расце дапыт-такі эгаістычнай. Магчыма, гэта якасць саслужыць ёй у далейшым няправную службу. Таму што на рабоце яна будзе даказваць перавагі актыўнасці свайго падраздзялення, аддзела, цэха, лабараторыі і "выб'е" ўсё, што толькі магчыма для поспеху. Яна не можа пераносіць манатоннасць жыцця. А таму яна часам мяняе нават прафесію. Але жанчына з імем Таня цвёрда ведае, чаго яна хоча ад жыцця. Яна не ўспрымае пярэчанняў. Таму з начальнікам Таццянай на службе вельмі няпроста ладзіць. Не ўздумайце ёй прыдумваць прычыны невыканання задання. Яе крывая ўсмешка лепш за ўсялякія вымовы растлумачыць вам яе адносіны. Калі ж Таццяна – падначаленая, то нават калі і не вельмі добра разабралася ў характары задання, яна пастараецца выканаць яго "на ўзроўні".

Яна педантычна ва ўсім, што тычыцца яе асабістых інтарэсаў на службе. З калегамі трымаецца дружалюбна, але можа і "паставіць на месца". Трэба заўважыць, што Таццяна больш любіць мужчынскі калектыў, а таму працаваць з жанчынамі для яе складана.

 

# Праходжанне Месяцам знакаў Задыяка ў 2003 годзе. Фазы Месяца

| Знакі Задыяка | Студзень | Люты | Сакавік | Красавік | Май | Чэрвень | Ліпень | Жнівень | Верасень | Кастрычнік | Лістапад | Снежань |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Авен | 9/0.01 | 5/7.45 | 1/0.01<br>4/15.31 | 1/0.01<br>28/4.55 | 25/11.01 | 21/18.05 | 19/2.20 | 15/11.01 | 11/19.10 | 9/2.10 | 5/7.04 | 2/12.55<br>29/20.10 |
| Цялец | 11/11.50 | 7/20.01 | 7/3.35 | 3/11.20<br>30/17.25 | 1/0.01<br>27/23.30 | 24/6.16 | 21/13.50 | 17/21.52 | 14/5.50 | 11/13.05 | 7/2.02 | 5/0.30 |
| Блізняты | 14/0.10 | 10/8.45 | 9/16.39 | 6/0.25 | 3/16.28<br>30/12.32 | 1/0.01<br>26/19.15 | 24/2.43 | 20/10.42 | 16/18.32 | 14/1.45 | 10/7.15 | 7/13.27 |
| Рак | 16/9.55 | 12/19.20 | 12/4.12 | 8/12.37 | 5/18.42 | 2/0.30<br>29/6.53 | 26/14.25 | 22/22.45 | 19/7.10 | 16/14.42 | 12/20.10 | 10/2.12 |
| Леў | 18/16.30 | 15/2.05 | 14/12.10 | 10/21.55 | 8/4.45 | 4/10.25 | 1/16.15<br>28/23.18 | 25/7.50 | 21/17.04 | 19/1.42 | 15/7.50 | 12/13.14 |
| Дзева | 20/20.30 | 17/5.25 | 16/15.52 | 13/3.08 | 10/11.32 | 6/17.50 | 3/23.17<br>31/5.30 | 1/0.01<br>27/13.28 | 23/23.05 | 21/9.02 | 17/16.35 | 14/23.05 |
| Шалі | 22/23.25 | 19/6.50 | 18/16.45 | 15/4.42 | 12/14.42 | 8/22.30 | 6/4.20 | 2/9.50<br>29/16.42 | 26/1.50 | 23/12.28 | 19/21.45 | 17/5.48 |
| Скарпіён | 25/2.10 | 21/8.10 | 20/16.40 | 17/4.17 | 14/15.15 | 11/1.40 | 8/7.45 | 4/13.10<br>31/19.01 | 1/0.01<br>28/2.50 | 25/13.10 | 21/23.25 | 19/9.20 |
| Стралец | 1/0.01<br>27/5.27 | 23/10.45 | 22/17.34 | 19/3.52 | 16/14.45 | 13/1.15 | 10/9.50 | 6/16.12 | 30/3.58<br>2/21.30 | 1/0.01<br>27/11.50 | 23/23.01 | 21/10.15 |
| Казярог | 2/1.43<br>29/9.30 | 25/15.12 | 24/20.50 | 21/5.20 | 18/15.04 | 15/1.40 | 12/11.20 | 8/19.03 | 5/0.50 | 2/6.20<br>29/12.40 | 25/22.31 | 23/9.55 |
| Вадалей | 4/5.57<br>31/14.45 | 1/0.01<br>27/21.25 | 1/0.01<br>27/2.52 | 23/9.58 | 20/18.02 | 17/3.45 | 14/13.40 | 10/22.25 | 7/5.15 | 4/10.45<br>31/15.40 | 1/0.01<br>27/23.45 | 25/10.15 |
| Рыбы | 6/12.55 | 2/21.55 | 2/5.27<br>29/11.28 | 25/18.02 | 23/0.42 | 19/8.58 | 16/18.15 | 13/3.20 | 9/11.08 | 6/17.21 | 2/21.50<br>30/4.25 | 1/0.01<br>27/13.10 |
| Маладзік | 2/22.24 | 1/12.49 | 3/4.36 | 1/22.20<br>31/7.21 | 1/15.16 | 29/21.40 | 29/9.54 | 27/20.27 | 26/6.10 | 25/14.51 | 24/1.00 | 23/11.44 |
| Першая квадра | 10/15.16 | 9/13.12 | 11/9.16 | 10/2.41 | 9/14.54 | 7/23.29 | 7/5.33 | 5/10.29 | 3/15.35 | 2/21.10 | 1/6.26<br>30/19.17 | 30/12.04 |
| Поўня | 18/12.49 | 17/1.52 | 18/12.36 | 16/22.37 | 16/6.37 | 14/14.17 | 13/22.21 | 12/7.49 | 10/19.37 | 10/9.29 | 9/3.14 | 8/22.38 |
| Апошняя квадра | 25/10.34 | 23/18.47 | 25/3.52 | 23/15.19 | 23/3.32 | 21/17.46 | 21/10.02 | 20/3.49 | 18/22.04 | 18/14.32 | 17/6.16 | 16/19.43 |

# Гараскоп карысных прадуктаў

**Авен**



Авен есць калі захоча і што захоча. Таму можна парадзіць пагадзінную дыету. Яму карысна есці рыбу (але не толькі рыбныя кансервы, якіх яму трэба пазбягаць). З малочных прадуктаў лепш за ўсё спажываць сыры, тварог, з садавіны – бананы і разынкі. Карысныя таксама абляпіха, каліна, чарніцы, глог. Любімыя арэхі Авена – міндаль.

**Цялец**



У Цяльца фенаменальная працаздольнасць, ён вельмі энергічны, калі ад работы залежыць яго пражытак. Цяльцу рэкамендуецца есці больш агародніны – буракоў, морквы, бульбы, каляровай капусты. З садавіны перавагу аддаваць айве, персікам, слівам. У чай карысна дабаўляць настой бруснічнага ліста і рамонку.

**Блізняты**



Блізнятам прыносяць карысць гарохавыя і фасолевыя стравы, а таксама ежа з баклажанаў і лісцяў рэпы. З садавіны рэкамендуюцца грушы і алівы. І, нарэшце, любую яду трэба запіваць вадой тыпу "Баржомі".

**Рак**



Рак – надзвычай пачуццёвая і інтуітыўная натура, вялікі гурман. Лепш за ўсё для яго – есці часта і малымі дозамі. Вельмі карысныя супы і мяса, але белае, духавое ці запечанае. З агародніны перавагу аддаваць кабачкам, свежым агуркам. З траў рэкамендуецца меліса. Варта асцярожна падыходзіць да спажывання сырой агародніны і кіслай садавіны.

**Леў**



Леў у харчаванні дазваляе сабе шмат лішняга, таму яму неабходна сачыць за сваёй вагой. Рэкамендуецца строгая дыета, прычым з выкарыстаннем сельдэрэю. З садавіны – апельсіны, інжыр. Забараняецца любая тлустая ежа, цёмнае мяса і кандытарскія вырабы. Добра для здароўя настой з кветак і ягадаў глогу. Карысныя дурніцы, прасяная каша і яечны жаўток, кукуруза, арахіс, масліны, какосавыя арэхі.

**Дзева**



Дзеве аналітычныя здольнасці дапамагаюць правільна выбраць дыету. Агародніна павінна быць варанай. Карысныя аўсянка і макароны. Можна выкарыстоўваць прыправы з араматычных траў – кмену, мяты, карыцы, чабэру, цыкорыю. Раніцай лепш за ўсё піць час з дабаўленнем шыпшыны. Дзеве нельга ўжываць кансервы, жывёльныя тлушчы, сыравэнджаныя прадукты і прысмакі.

**Шалі**



У меню Шаляў абавязкова павінны прысутнічаць хлеб, рыс і спаржа. З садавіны – персікі і абрыкосы. Натуральнай крыніцай вітамінаў з'яўляюцца прарослыя злакі, солад і люцэрна. Шалі схільныя да экзатычнай ежы – тыпу мідый і марскіх малюскаў. Карысна есці ягады – клубніцы, чорныя парэчкі. З траў карысныя – базілік, размарын, адвар падбелу.

**Скарпіён**



Скарпіён любіць смачна паесці, ён забывае, што ў ядзе, як і ў напоях яму неабходна памяркоўнасць. Карысныя ялавічная печань і мяса птушкі, рэпа, часнок, шалфей, размарын, ёгурты, вішня, агрэст, кізіл. Перад абедам рэкамендуецца 1-2 лыжкі патакі з партвейнам ці ромам.

**Стралец**



Стральцу рэкамендуецца цялячая печань з дабаўленнем маярану, мальвы, шалфею, а таксама спаржы, сырой капусты і рэдзькі. У абед карысна з'ядаць 5-6 грэцкіх арэхаў, цукру трэба спажываць мінімальную колькасць.

**Казярог**



У меню Казярога павінны быць мяса, сырая агародніна. Карысная тоўчаная скарлупіна яек. З ягад перавагу аддаваць чарэшні, дурніцам, ажынам, а з садавіны – айве; з агародніны – спаржы, шпінату, рэдзьцы, чачавіцы. Паміж прыёмамі ежы трэба піць больш кіпячонай ці мінеральнай вады, а яшчэ есці полівітаміны.

**Вадалей**



У штодзённае меню Вадалея павінна ўваходзіць свежая садавіна, а таксама цвёрдыя сыры, зеляніна, гарчыца, арэхі, міндаль, марская рыба з прыправай з піжмы і падуба. Цукар лепш замяніць мёдам. Кісламалочныя прадукты можна есці, а вось ад пірожных, выпечкі лепш адмовіцца.

**Рыбы**



Рыбы павінны больш, чым іншыя, пазбягаць алкаголю. Карысныя кашы з неапрацаванага збожжа, яблыкі, семачкі сланечніка. Ранняй вясной варта спажываць як мага больш шпінату і радыскі. З траў карысныя марскія водарасці, марская капуста, агурочнік аптэчны і мох.

## Прыкладныя дні сатанінскіх дзён (па Месяцы) у 2003 годзе (час мінскі)

| Месяц | 23-і месяцавы дзень | 29-ы месяцавы дзень | 9-ы месяцавы дзень | 15-ы месяцавы дзень |
|---|---|---|---|---|
| Студзень | 25/0.01-26/1.25 | 2/8.05-2/22.22<br>31/7.40-31/23.00 | 10/11.10-11/11.15 | 16/12.58-17/13.40 |
| Люты | 24/2.13-25/3.40 | 1/0.01-1/8.07 | 9/9.42-10/9.57 | 15/14.00-16/15.30 |
| Сакавік | 25/2.42-26/3.35 | 2/6.49-3/4.35<br>31/6.21-31/24.00 | 10/8.18-11/8.44 | 16/14.25-17/16.00 |
| Красавік | 24/3.50-25/4.10 | 1/0.01-1/6.30<br>30/4.55-30/23.00 | 9/9.03-10/10.07 | 15/17.30-16/19.05 |
| Май | 24/2.45-25/2.50 | 1/0.01-1/5.04<br>30/3.35-31/3.53 | 9/10.28-10/11.55 | 15/19.50-16/21.25 |
| Чэрвень | 23/1.15-24/1.20 | 29/2.53-29/21.40 | 8/12.40-9/14.01 | 15/0.01-15/23.00 |
| Ліпень | 22/0.01-23/0.10 | 28/2.30-29/3.40 | 7/13.15-8/14.45 | 13/21.40-14/22.15 |
| Жнівень | 20/22.20-21/22.45 | 27/4.15-27/20.27 | 6/15.40-7/17.05 | 12/21.10-13/21.10 |
| Верасень | 18/21.15-19/21.50 | 25/3.42-26/6.05 | 4/16.20-5/17.25 | 10/19.30-11/19.38 |
| Кастрычнік | 17/20.45-18/21.53 | 24/5.11-25/6.45 | 3/16.20-4/16.50 | 9/18.25-10/18.25 |
| Лістапад | 16/21.15-17/22.40 | 23/6.25-24/0.59 | 2/14.40-3/14.50 | 8/15.30-9/15.45 |
| Снежань | 15/21.50-16/22.50 | 22/7.02-23/8.35 | 1/13.10-2/13.15 | 7/14.01-8/14.12 |

## Пра сатанінскія дні

**У некаторых літаратурных крыніцах ёсць дадзеныя, што сатанінскія дні яшчэ больш за 100 год таму называлі "злымі" і публікавалі іх даты толькі ў так званых "чорных кнігах".**

У гэтыя дні забаранялі займацца сур'ёзнымі і адказнымі справамі, рэкамендавалі быць асабліва пільнымі і асцярожнымі.

Цяпер жа сатанінскія дні разлічваюць пры дапамозе спецыяльных астралагічных даведнікаў. Аднак адмоўнае ўздзеянне касмічных сіл і прыроды на чалавека і расліны ў такія дні навукай яшчэ да канца не разгадана.

Як пацвярджаюць назіранні і апытанні людзей, асабліва дрэнныя вынікі атрымліваюцца, калі сатанінскія дні прыходзяцца на даты, абазначаныя ў Месяцавым календары як неспрыяльныя для сяўбы і пасадкі. У гэтыя дні кепска не толькі раслінам, але і людзям. Адчуваюцца фізічныя недамаганні, духоўная стомленасць. У такія дні лепш адпачываць.

І яшчэ адна парада. Сатанінскія дні лёгка можна "абысці". Яны пачынаюцца, як правіла, з 11–14 гадзін і заканчваюцца пасля абеду на наступны дзень. Так што насенне сеяць можна раніцай перад пачаткам сатанінскага дня, а пасадку дрэў, кустоў, караняплодаў рабіць на наступны дзень вечарам пасля заканчэння сатанінскага дня.

Калі ж сатанінскі дзень пачынаецца ноччу або раніцай, то на наступны дзень ён заканчваецца прыкладна ў той жа час. Тады сяўбу і пасадку можна праводзіць пасля абеду, калі дзень добры па іншых паказчыках.

# Звычайная Швецыя

**У адным з мінулых нумароў мы надрукавалі падарожныя нататкі са Швецыі нашага карэспандэнта Міхася Александровіча. Між тым, падзяліцца аб уражаннях ад жыцця ў гэтай краіне згадзіўся таксама былы супрацоўнік "Рэгіянальнай газеты", а цяпер жыхар Швецыі і наш карэспандэнт у гэтай краіне Алег Гулецкі.**



Шведскія гандлёвыя маркі далёка вядомыя за межамі краіны. Тым не менш у магазінах Швецыі, нават у буйных супермаркетах, апроч айчынных можна знайсці шмат кітайскіх, сінгапурскіх тавараў. Гэта не абражае шведаў. Яны разумеюць, што ў Кітаі больш танная рабочая сіла, і гэта выгадна Швецыі. Скандынавы вельмі практычныя людзі. Ля гандлёвага цэнтра ў Стакгольме. Фота Алега ГУЛЕЦКАГА.


Самыя сучасныя праекты ўвасабляюць у жыццё шведскія інжынеры. Фота Алега ГУЛЕЦКАГА.


Швецыя – краіна мастоў, яхтаў, лясоў. Фота Алега ГУЛЕЦКАГА.

## Эпізоды сучаснай шведскай рэчаіснасці

Король, королевич, сапожник, портной – кто ты будешь такой?

Каралеўская дынастыя Швецыі — адна з самых старажытных у свеце. Цяпер у яе склад уваходзіць кароль Карл XVI Густаў, яго грацыёзная жонка каралева Сільвія, прынцэса Вікторыя, прынц Карл-Філіп і прынцэса Магдалена.

Вікторыі, як і ўсялякай прыстойнай прынцэсе, не дае спакою слава прынцэсы Дзіяны. Таму Вікторыя вельмі добрая да прыгнечаных, робіць ваяжы па Афрыцы і Азіі і дапамагае ўсім. Удзельнічае ў шведскіх нацыянальных святах пад выглядам вясковай прасцячкі і вельмі любімая сваім народам. Аднойчы яе бацька Карл Густаў таксама ўдзельнічаў на свяце і атрымаў ад нейкага студэнта тортам у твар.

Усе ведаюць, што "жаніцца па каханні не можа ніводны кароль". Аднак нарвежскі прынц узяў сабе ў жонкі дзяўчыну лёгкіх паводзін, наркаманку ды яшчэ з дзіцем. Яму пагражалі адлучэннем ад каралеўскай сям'і, але ён стойка вытрымаў скандалы і на ўступкі не пайшоў. Жаніўся. І жывуць яны шчаслівыя, нягледзячы на прыдзірлівую ўвагу суайчыннікаў да новаспечанай прынцэсы.

## Змена каравула

У гэтым годзе Стакгольму споўнілася 750 гадоў. Свята доўжылася цэлы тыдзень і завяршылася небывалым феерверкам.

Турыстычнае шоу "Змена каравула" разраслося да конкага парада. Аднак удзельнікі былі настолькі неарганізаваныя, што простае выраўніванне па адной лініі заняло дзесяць 10 хвілін. Удзельнічалі эмансіпіраваныя шведскія дзяўчаты.

А вось восенню на выбарах ніякай "змены каравула" не адбылося. Зноў перамаглі "чырвоныя" сацыял-дэмакраты пад кіраўніцтвам Ёрана Перцана.

У моцнай апазіцыі апынулася нешматлікая партыя "зялёных". Яны нейтральныя. І так як цяпер у парламенце захоўваецца раўнавага паміж левымі і правымі, голас "зялёных" часта вырашае, чыя возьме ў прыняцці важных пытанняў. Напрыклад, аб тым, якой будзе палітыка Швецыі ў адносінах да прыезджых з краін былога СССР.

## Выратуйце-дапамажыце

Дэмаграфічная сітуацыя ў Швецыі цяжкая. Актыўная рэклама прэзерватываў зрабіла сваю чорную справу. Стварыць дадатковы прырост насельніцтва прызваныя бежанцы. Імі могуць стаць людзі, якія прыехалі прамікам у Швецыю, мінавалі іншыя краіны ЕС, і калі ў іх краінах ідзе вайна (Блізкі Усход, Афрыка, Афганістан, Югаславія), калі іх праследуюць на этнічнай ці рэлігійнай глебе (яўрэйская эміграцыя і курды з Турцыі), калі пагражаюць як прадстаўнікам секс-меншасцяў (усюды за межамі ЕС) ці па палітычнай "праграме" (Рэспубліка Беларусь). Аднак калі першыя пункты працавалі і працуюць на поўную катушку – вайна ў Афгане закончылася, вось цяпер у Іраку пачнецца, і зноў пацягнуцца мусульманскія караблі ў Еўропу, – то адносіны да бежанцаў з Рэспублікі Беларусь строга адмоўныя.

Шведы добра ведаюць аб тым, што падрабіць ці купіць любыя дакументы ў нашай краіне зусім нядорага і проста. Таму ўсім гавораць "не". Яны лічаць, што ў адрозненне ад Турцыі, у нашай краіне жыццю асабліва нічога не пагражае. А колькасць міліцыі ў нас такая, што можа трайным патрулём абараніць кожнага асобнага грамадзяніна.

Рабочай эміграцыі ў Швецыю, як, напрыклад, у Германію, Аўстрыю ці Галандыю, практычна не існуе.

## Астрыд Ліндгрэн

Астрыд Ліндгрэн не далі ніякіх дарослых прэмій, таму што яна пісала для дзяцей. І нікога не хвалявала, што чытаюць яе і дарослыя.

Затое Астрыд сабрала ўсе "дзіцячыя" ўзнагароды і прэміі і вельмі любімая сваім народам за створаны ею вобраз Піпі (менавіта Піпі, а не Пэпі) Лонгстрэм – вельмі эмансіпіраванай дзяўчынкі ў адной даўжэзнай панчосе. Падарожніцы, піраткі і прайдзісветкі.

## Тайна Рауля Валенберга

Валенбергі – адна з самых вядомых і ўплывовых сямей у Швецыі, узнікшая ў пачатку XX стагоддзя. Яна валодае банкамі і страхавымі кампаніямі, буйнейшымі канцэрнамі электратэхнічнай і суднабудаўнічай прамысловасці ў Еўропе. Урад штогодна кансультуецца з гэтай сям'ёй па многіх пытаннях.

Падшыпнікі SKF, банк і страхавая група SEB – гэта "кіты" імперыі Валенбергаў. Цяпер сям'я мае багаты маёнтак ў 20 кіламетрах ад Стакгольма, і ўбачыць, як там ідзе жыццё, можа кожны, хто праязджае міма на гарадскім аўтобусе.

Як сказаў адзін знаёмы швед, — "усе яны тыповыя капіталісты, а харошым чалавекам быў толькі Рауль". Тайна яго гібелі не раскрытая да гэтага часу. Рауль Валенберг сапраўдны шведскі герой. У час вайны ён выратаваў ад смерці каля 100 тысяч чалавек, выкупліваў дамы на тэрыторыі Будапешта і аб'яўляў іх "шведскімі місіямі". Там хаваліся ад гестапа і СС тысячы людзей, якія потым па дакументах шведскіх грамадзян змаглі паехаць у бяспечныя краіны, а не згарэлі ў Асвенціме. Рауль таксама быў і на баку СССР, калі пад націскам уплывовых палітыкаў з яго сям'і Фінляндыя выйшла з вайны.


Рауль Валенберг. Фота з архіва «РГ».

Савецкія таварышы "аддзячылі" яго тыпова па-свойму: проста знішчылі. Рауль Валенберг прапаў у час сустрэчы з чырвоным камандаваннем. Да нашых гадоў савецкія кіраўнікі так ці інакш абманвалі шведаў, спачатку казалі, што яго выкралі немцы, потым сталінскае кіраўніцтва спрабавала абмяняць яго на савецкіх палонных-невяртанцаў, потым заявіла, што ён памёр ад сардэчнага прыступу, а заадно знеслі помнік Валенбергу ў Будапешце.

У перыяд Гарбачова было аб'яўлена аб тым, што Валенберг быў расстраляны. Усё гэта не задавальняла сусветную грамадскасць, якая да цяперашняга часу патрабуе ад Расіі сказаць праўду нарэшце гэтага.

## Усё на продаж

Што мы ведаем пра прамысловасць Швецыі? Некалькі імёнаў – "Эрыксан", "Вольва", "ІКЕА"... і тое, што гэтая самая прамысловасць была самай перадавой і прагрэсіўнай у Еўропе, калі не ў свеце.

Была... Ціхі крызіс, у якім цяпер знаходзіцца большая частка заходняй Еўропы, адбіўся і на Швецыі. Многія лічаць, што шведская сістэма – гэта калос на гліняных нагах. Аднак у час крызісу 70-х гэты калос не толькі ўстаяў, але і паспяхова стварыў прадпрыемствы з самымі перадавымі тэхналогіямі. Карані цяперашняга крызісу часткова ляжаць у тым часе. Менавіта тады акцыі многіх шведскіх прадпрыемстваў былі купленыя амерыканцамі і японцамі. Цяпер шведскія кампаніі пераходзяць ва ўладанне даўнейшых пакупнікоў акцый. "Эрыксан" прайграў канкурэнтную бітву фінам "Нокіа" і стаў "Соні-Эрыксанам", а "Вольва" адышла да амерыканскага канцэрна "Форд-GM".

Сур'ёзны крызіс і ў ахове здароўя, аднак адкрываць рабочую эміграцыю для дактароў і медработнікаў з краін Усходняй Еўропы пакуль ніхто не збіраецца.

Крызісы тут зусім іншага ўзроўню, чым у Беларусі, ды і Еўропа побач і заўсёды гатова кінуцца на дапамогу. Толькі дапамога тут павінная быць узаемавыгаднай.

**Алег ГУЛЕЦКІ,**
**Стакгольм.**

У далейшых расказах са Швецыі нашага карэспандэнта са Скандынавіі Алега Гулецкага можна будзе прачытаць:

– Пайду я на пенсію (скандал з пенсіяй дырэктара АББ у 80 млн. доляраў і пенсіямі лідэраў прафсаюзаў – спосабы выжывання для багатых)

– Самба – гэта не барацьба (аб спосабах рэгістрацыі і відах сумеснага жыцця)

– Цэны і падаткі, багатыя і бедныя (параўнанне цэн на Маладзечанскім і Стакгольмскім рынках, што і колькі каштуе, што такое REA, тыповы багаты і тыповы бедны ў Швецыі)

– Няхай мяне навучаць свабодзе (школьная сістэма, настаўнікі, бацькі)

– Эміграцыя з краін 3-га свету, гета.

